

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 6 кастрычніка 1989 г. № 40 (3502) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.




## КАЛОНА

### 30 верасня. Мінск. «Чарнобыльскі шлях»

...Рушылі па асявой. Аказваецца, Ленінскі праспект настолькі шырокі, што на ім хапіла месца і для дзесяткаў тысяч людзей і для няспыннага транспартнага патоку. Вось у вакне шыкоўнага замежнага аўтобуса, які плыў насустрач, хтосьці з турыстаў ускінуў руку ў інтэрнацыянальным жэсце — «Вікторыя!»

Перамога? Мы — пераможцы?

(Працяг на стар. 2).

# КАЛОНА

(Пачатак на стар. 1).

**Нагодай, з якой сабралася і рушыла Калона, мяркую, даруецца мне тут асабісты матыў. Некалькі месяцаў назад, спякотным ліпеньскім днём зусім іншы аўтобус, прапылены і траскі «ЛАЗ» давёз мяне да родных мясцін на Краснапольшчыне, у вёску Крываліцк. Гэта ў сямі кіламетрах ад таго саду пад Наваельняй, дзе зарэгістравана выпраменьванне інтэнсіўнасцю ў 399 кюры; адсюль кіламетраў дваццаць да тых самых Мхінічаў, ля якіх, кажуць, «саджалі» радыеактыўныя аблокі.**

**Зрэшты, не ў тым справа, «саджалі» ці не. І нават не ў пасля-дэзактывацыйным пейзажы, які давялося ўбачыць. І не ў густа, неахайна наляпаным асфальце ля прызначаных пад высяленне вёсак, жыхары якіх некалі марылі пра звычайную гравійку. І не ў тым, што ёсць больш «брудныя» ці больш «чыстыя» мясціны...**

**У лесе, які сцяной насунуўся на дзедаву сядзібу, на зарослых, ледзь прыкметных ужо сцяжынах, дзе шукаў, як цяпер разумею, учарашні дзень, адчуў я дагэтуль нязнанае. Адчуў недавер— да травы, да куста з малінамі, да гэтай вось, сонцам залітай дубровы. І ўсвядоміў, што з гэтым недаверам давядзецца жыць.**

**Такая вось «вікторыя»...**

**КАЛОНА рушыла па праспекце. Галоўная сталічная магістраль на некалькі гадзін зрабілася «чарнобыльскім шляхам», месцам правядзення агульнанацыянальнай грамадзянскай акцыі, наладжанай Народным фронтам па просьбе жыхароў «зоны асаблівай увагі», ці, называючы рэчы сваімі імёнамі, зонай экалагічнага бедства.**

**У гэты дзень мы засвойвалі адзін з урокаў новай філасофіі. Галоўная каштоўнасць — чалавек, жыцці людскія — не жвір, ахвярнасць мае сэнс тады, калі яна—усвядомленая.**

**Думаецца, такі пункт гледжання ўмацоўвае нашу еднасць перад аблічам агульнай бяды. І не дазваляе ўспрымаць як штосьці палярнае маніфестацыю і суботнік, рэзалюцыю мітынгу і зварот канферэнцыі, клопат аб нацыі і клопат аб мільярдах рублёў.**

**Менш за ўсё хацелася б згладжваць вострыя вуглы, прыцішваць супярэчнасці. Наш час канфліктны наскрозь. І гэты дзень, і гэтая Калона больш чым пераканаўча сведчылі: калі «немэтазгоднай» лічыцца акцыя, якая збірае тысячы і тысячы людзей, значыць, у кагосьці памылковае ўяўленне пра мэтазгоднасць.**

**СЛОВЫ... Іх шмат гучала ў гэты дзень. На маршы, на мітынгу, на прэс-канферэнцыі. Гаварылі народны дэпутат і пенсіянерка, камуніст і беспартыйны, акадэмік і рабочы, прафсаюзны лідэр і настаўніца, член урада і святар...**

**Калегі-журналісты са штодзённых газет перадалі ўжо галоўны сэнс, сутнасць сказанага. Мне ж думаецца вось пра што: якія словы, з якой інтанацыяй прамоўленыя і наколькі гучна, найбольш адпавядаюць становішчу, у якое ўсе мы трапілі!**

**«Патрабуем» ці — «просім»! «Ліквідацыя вынікаў» ці—«выратаванне нацыі»! «Прыцягнуць да адказнасці» ці — «даць ацэнку»! «Баставаць» ці — «увайсці з хадайніцтвам»!**

**Чытаем артыкулы, зазіраем у спецыяльную літаратуру, распытваем вучоных і медыкаў. Бэры, кюры, рэнтгены... Стронцый, цэзій, плутоній, «гарачыя часцінкі»... Часам здаецца, што мы імкнёмся пераканацца, як усё кепска і безвыходна.**

**Але ж мы людзі. І нават марнуючы адпушчанае нам, больш за ўсё баімся няпэўнасці, адсутнасці, сэнсу свайго існавання. Што дасць палёгку—праклёны, маленні, грошы, дазіметры, праекты... што! Што ўмацуе наш дух і волю, загартуе нашу веру!**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

Фота Я. КОКТЫША.

# Мільёны — у фонд Чарнобыля

По ініцыятыве шэрагу вытворчых калектываў, вучоных Акадэміі навук БССР, а таксама Белсаўпрофа, ЦК ЛКСМБ і Магілёўскага абкома КПБ 30 верасня быў праведзены рэспубліканскі суботнік. З высакароднай мэтай папоўніць фонд сродкамі, якія накіроўваюцца на ліквідацыю вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, 2 мільёны 358 тысяч чалавек занялі рабочыя месцы.

Больш за мільён сельскіх працаўнікоў і работнікаў перапрацоўчых прадпрыемстваў выйшлі на ўборку бульбы, агародніны і садавіны, ільну, нарыхтоўвалі кармы. У дзень суботніка прыкметна рушыў наперад фронт работ на будаўнічых аб'ектах рэспублікі. Усяго ўзвядзеннем дамоў і добраўпарадкаваннем тэрыторыі было занята 188 тысяч чалавек.

Парадавалі транспартнікі. Напрыклад, работнікі Беларускай чыгункі прадаставілі ў гэты дзень для адгрузкі бульбы 920 вагонаў, што дало магчымасць задаволіць усе заяўкі грузаадпраўшчыкаў. У сістэме Міністэрства транспарту БССР у суботніку ўдзельнічала 80 тысяч чалавек, было прыцягнута больш чым 21 тысяча грузавых аўтамабіляў, 8 тысяч аўтобусаў. Аб'ём перавозак склаў 594 тысячы тон. Асабліва масавым быў суботнік у раёнах, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.

Паводле папярэдніх дадзеных, у фонд ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС будзе пералічана звыш 8 мільёнаў рублёў.

**БЕЛТА.**

## На суботніку

**По ўсёй Беларусі прайшоў суботнік, грошы з якога пералічаны ў фонд Чарнобыля. У ім удзельнічалі і супрацоўнікі часопіса «Полымя». Яны працавалі на ўборцы бульбы ў калгасе імя ЦК КПБ Пухавіцкага раёна. Таксама адбылася сустрэча з кіраўніком гаспадаркі Фёдарам Уладзіміравічам Супруном. Ён расказаў, што сёлета ў калгасе атрымалі неблагі ўраджай збожжавых — амаль 38 цэнтнераў з гектара і бульбы — 260 цэнтнераў. Старшыня падзякаваў пісьменнікам за ўдзел у суботніку.**

**В. ШАНТЫКА.**

*Выбары і наш выбар*

# ПРЫНЦЫПЫ І КАМПРАМІСЫ

**Рэпартаж з пасяджэння рабочай групы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР**

**Усё менш часу застаецца да прыняцця законаў, на падставе якіх будуць выбірацца народныя дэпутаты ў Вярхоўны Савет БССР і ў мясцовыя Саветы рэспублікі. Хутка падвядзе вынікі рабочая група Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Яе члены вось ужо месяц вывучаюць шматлікія прапановы, якія паступілі ў ходзе абмеркавання законапраектаў, выпрацоўваюць іх новую рэдакцыю.**

**На чарговым пасяджэнні рабочай групы, якое адбылося 29 верасня, пабываў наш карэспандэнт.**

Амаль 45 тысяч — столькі паступіла ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета прапаноў, скіраваных супраць выбараў ад грамадскіх арганізацый. Гэтая лічба прагучала на пасяджэнні групы пры абмеркаванні артыкула 1 Закона «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР». За захаванне квоты для грамадскіх арганізацый у будучым Вярхоўным Савеце — *усяго некалькі лістоў.* Здавалася б, пытанне яснае. Але можна зразумець і аўтараў такіх пісьмаў — скажам, членаў таварыства інвалідаў. Яны заклапочаны тым, каб пра іх інтарэсы не забыліся будучыя парламентарыі.

*У прынцыпе* члены *рабочай* групы адназначна выказаліся за роўнае і прамое выбарчае права без усялякіх выняткаў яшчэ ў ходзе абмеркавання Закона «Аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР». У выніку вострых дыскусій былі прыняты рашэнні аб скасаванні інстытута перадвыбарчых акруговых сходаў і аб альтэрнатыўнасці выбараў (унясенні ў выбарчыя бюлетэні не менш як двух кандыдатаў). Група, такім чынам, даволі рашуча выказалася за дэмакратызацыю Канстытуцыі рэспублікі, і перш за ўсё — выбарчай сістэмы.

Цяпер рабочай групе заставалася «ўсяго толькі» ўвязаць тэксты праектаў законаў аб выбарах у Вярхоўны і мясцовыя Саветы з тэкстам новай рэдакцыі асобных артыкулаў Асноўнага Закона БССР. Праца, на першы погляд, руцінная. Але кожны артыкул, абзац ці нават радок у ім абмяркоўваліся на пасяджэнні наколькі ўзважана і ўсебакова, настолькі, часам, і эмацыянальна.

Наогул, падставы хвалявацца ў членаў групы былі. Работа *над законапраектамі* заняла больш часу і сіл, чым меркавалася. Не ўдалося ўкласціся ў запланаваныя тэрміны падрыхтоўкі новай рэдакцыі. Гэта не магло не адбіцца і на ходзе пасяджэння, на якім давялося прысутнічаць. *Але не было тут ні празмернай* нервовасці, ні гарачкі. За рабочым сталом панавала дэмакратычная і разам з тым дзелавая атмасфера, кожны мог прыводзіць свае аргументы «за» ці «супраць», выказваць і адстойваць свае прапановы, свае *прынцыпы, свой пункт* погляду.

Па многіх спрэчных пытаннях удалося знайсці кампрамісныя рашэнні. Скажам, законапраект аб выбарах прадугледжвае, што расходы, звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем *выбараў, робяцца за* кошт дзяржавы. «Для гэтых мэт, — сказана ў праекце, — не могуць выкарыстоўвацца сродкі прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадзян». Народны дэпутат СССР А. Дабравольскі выказаў сумненне, *што гэтае палажэнне* не будзе парушацца на практыцы. Ён прапанаваў: для таго, каб не было парушэнняў, дазволіць працоўным калектывам і асобным грамадзянам перадаваць грашовыя сродкі на вядзенне выбарчай кампаніі ў выбарчыя камісіі, *якія дзялілі* б гэтыя сродкі на роўныя долі паміж усімі кандыдатамі. А на што канкрэтна пойдуць грошы — гэта камісіі павінны ўзгадняць з самімі кандыдатамі. Ніякай уніфікацыі перадвыбарчых «праграм» і біяграфій кандыдатаў, напісаных «пад капірку», быць не павінна. Пасля даволі бурных спрэчак і сумненняў папраўка Дабравольскага, калі можна тут скарыстаць тэрмін з практыкі заходніх парламентаў, была ў аснове сваёй прынята.

Найбольшы напал, можна сказаць нават — сур'ёзную канфрантацыю ўнутры рабочай групы выклікала абмеркаванне артыкула 13 праекта Закона «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР». Дакладней — той часткі артыкула, дзе гаворыцца аб адказнасці за заклікі да байкатавання выбараў.

На думку доктара юрыдычных навук А. Лейзерава, такое законапалажэнне мела б сэнс толькі ў тым выпадку, калі б удзел у выбарах быў бы абавязковым для грамадзяніна (як, напрыклад, у Бельгіі). А паколькі савецкая Канстытуцыя пакідае грамадзянам права ўдзельнічаць або не ўдзельнічаць у выбарах, то павінна быць і права заклікаць іншых ісці або не ісці на выбары.

Яго падтрымалі народныя дэпутаты СССР А. Дабравольскі і І. Абламейка, а таксама дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Г. Ерамееў (ён удзельнічае ў пасяджэннях на правах запрошанага). Ерамееў, у прыватнасці, настойваў на тым, што трэба дамагацца прыняцця сапраўды дэмакратычнага закона аб выбарах, які сам па сабе не даваў бы падстаў для байкоту, а не выступаць супраць магчымасці яго правядзення. Па словах жа Дабравольскага, існуючая фармуліроўка артыкула 13 прыроўнівае людзей, якія будуць выступаць супраць правядзення выбараў, скажам, па палітычных матывах, да ашуканцаў, паклёпнікаў і да т. п.

Супрацьлеглы пункт погляду ў катэгарычнай форме выказаў начальнік кафедры вышэйшай школы МУС БССР М. Кудзінаў. Байкатаваць выбары заявіў ён, гэта значыць зры-

# АД ЦІХАЙ БЕСЯДЗІ...

**У Касцюковіцкім раёне прайшло Рэспубліканскае свята паэзіі, прысвечанае 75-годдзю з дня нараджэння Аркадзя КУЛЯШОВА**



**...Гэтыя радкі на слыху, бадай, у *кожнага:***

Бывай, абуджаная сэрцам,
дарагая,
Чаму так горка, не магу я
зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе
дагарае
На ўсходзе дня майго, якому
ружавець.

**Праўда, калі перачытваеш сёння гэтую лірычную тугу паэта па першым, страчаным назаўсёды, каханні, слова «горка» набывае і іншы сэнс. Горка і таму, што і *куляшоўскія мясціны* забруджаны радыёнуклідамі і пастаўлена пытанне аб адсяленні жыхароў Саматэвіч і некаторых іншых вёсак Касцюковіцкага раёна. Гэты тужлівы роздум не мог не кранацца сэрца і тых, хто ехаў у мінулую суботу на рэспубліканскае свята паэзіі, прысвечанае 75-годдзю з дня нараджэння А. Куляшова. У прадстаўнічую дэлегацыю, якую ўзначальваў першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч, увайшлі вядомыя беларускія літаратары, а *таксама пісьменнікі* з саюзных рэспублік — удзельнікі семінара перакладчыкаў беларускай літаратуры на мовы народаў СССР, што завяршыўся днямі ў Іслачы.**

**Сустрэча з мясцовым кіраўніцтвам, якая адбылася на мяжы Клімавіцкага і Касцюковіцкага раёнаў, трывогі гэтай не развеяла. Сапраўды, як даведаліся госці з расказу першага сакратара Касцюковіцкага райкома партыі У. Адашкевіча, ра-**

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# МІЖ БЫЛЫМ І НАСТУПНЫМ

СШЫТАК ПЯТЫ

Нацыя без засведчанага ў помніках і асэнсаванага ў кнігах свайго мінулага — не жыццястойкая нацыя. Грамадзянін без гістарычнай самасвядомасці — не дасканалы грамадзянін. Занадта катэгарычна? Так, катэгарычна, таму што гэта — аксіёмы. Элементарныя ісціны. Гэта гаварылася і гаворыцца безліч разоў на розных мовах свету. І калі некаторыя нашы сучаснікі ўсё ж не могуць гэтага пачуць — дык толькі таму, што яны вельмі не хочуць гэтага пачуць. Таму і трэба паўтараць, аж пакуль не пачуюць і не зразумеюць усе.

□

**У народзе абавязкова павінна жыць памяць пра гераічнае мінулае.** Абавязкова! У фальклоры яна замацоўваецца ў гераічных песнях і казках, паданнях і легендах — інакш сказаць, у гераічным эпасе. Уласна, з жыццёвай неабходнасці гэты эпас і ўзнікаў. Значэнне гэтага дабра разумелі і Купала, і Колас, і Багдановіч, і Гарэцкі, і Гарун, і Ластоўскі, і іншыя выдатныя дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння. Разумелі, што без уласнай дзяржаўна-палітычнай гісторыі, без высокага і слаўнага ў гэтай гісторыі, народная памяць аслабне, бо яна сілкуецца не *толькі трагедыямі, але і* героікай. Яркі прыклад, які пацвярджае слушнасць сказанага,— памяць аб Вялікай Айчыннай: колькі ў ёй гераічнага, якія высокія парывы чалавечага і народнага духу засведчаны, якія подзвігі ўвекавечаны!

Невыпадкова ворагі нацыянальнага адраджэння Беларусі — як царысты-вялікадзяржаўнікі, так і польскія шавіністы — стараліся забіць і заглушыць у памяці нашага народа менавіта гэта: найбольш гераічныя моманты яго гісторыі, якія сведчаць пра вышыню яго духу, пра яго жыццяздольнасць і сілу волі, пра яго непераможнае імкненне да свабоды і незалежнасці. А найбольш тое, што ў яго некалі была свая дзяржаўнасць, хоць і называлася дзяржава іншым, не сучасным імем.

□

**Сто пяцьдзесят гадоў** з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага — адно з самых дарагіх для нашай памяці сыноў Бацькаўшчыны. Вялікі юбілей вялікага грамадзяніна, а праходзіць больш чым сціпла. Выдалі томік яго спадчыны, Дошку на доме павесілі. (Такую, што глядзець сорамна). Невялічкую навуковую канферэнцыю правялі. Гэткі ж невялічкі наладзілі вечар у Доме літаратара (замест вялікага ў тэатры оперы і балета)... Аказваецца, нават рэспубліканскага юбілейнага камітэта не было. На такую дату! На 150-ыя ўгодкі найвялікшага беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата!.. Дарэчы, помню, як святкаваліся ў Расіі такія ж даты Герцэна, Бялінскага, Дабралюбава, Чарнышэўскага... Два непараўнаныя ўзроўні. Два зусім розныя падыходы: мудры дзяржаўны і — убогі правінцыйны...

А паміж тым цікавасць да яго асобы, да яго лёсу і яго жыццёвай справы — у шырокіх колах грамадства, асабліва ў асяроддзі моладзі, расце. Постаць яго ўсё больш вабіць, вобраз яго ўсё больш хвалюе сённяшніх маладых мастакоў і літаратараў, навукоўцаў, настаўнікаў, студэнтаў... Чым і чаму? Сваёй велічнасцю, вядома.

У нацыянальным мастацтве і літаратуры павінен быць вялікі эпічны герой — ідэал чалавека-грамадзяніна, чалавека-патрыёта. Мастакі гэта адчуваюць, разумеюць, што без такога ідэала (героя) падточваюцца і слабеюць маральныя сілы нацыі, дух народа. У Каліноўскім увасоблены ў найвышэйшай ступені тыя рысы, якія для лепшых мастакоў заўсёды былі і заўсёды будуць крыніцай творчага натхнення.

Каліноўскі — гэта высакароднасць ва ўсім: у кожным слове і ў кожным учынку, у самай вялікай грамадскай і самай нязначнай асабістай справе.

Каліноўскі — гэта мужнасць, беззапаветнасць і самаахвярнасць у барацьбе за волю і шчасце народа.

Каліноўскі — гэта той узровень духоўнай і маральнай культуры, які сёння нам бачыцца ў чалавеку далёкай будучыні.

Каліноўскі — гэта ўвасабленне адзінства пачуццяў патрыятызму і інтэрнацыяналізму, што ў цывілізаваным грамадстве заўсёды будзе чалавечай каштоўнасцю найвышэйшага парадку.

У пераломныя, лёсавызначальныя моманты гісторыі — а якраз гэтакі момант мы цяпер перажываем — роля і значэнне такіх легендарных вобразаў асабліва ўзрастае.

«Дзецюкі, каб ніхто вас не мог ашукаць, цяпер ужо разважце між сабой, якой вам свабоды трэба і якім адзіным спосабам мужык яе здабыць можа». Чытаю гэтыя і іншыя яго заклікі-звароты да беларускіх мужыкоў — і думаю: як жа трэба было ненавідзець рабства, у якім выміраў — фізічна, духоўна і маральна — народ, і як жа трэба было спачуваць няшчаснаму «беларускаму рабу», каб кінуць гэты кліч, паўстаць і пайсці за яго на смяротную бітву!..

Мы яшчэ на ўвесь голас не сказалі, што калі б не Каліноўскі, не рэвалюцыйная атмасфера, ім і яго паплечнікамі створаная на Беларусі, не было б першага вялікага народнага паэта Францішка Багушэвіча, не было б Адама Гурыновіча і Янкі Лучыны, не было б таго асяроддзя, у якім жыла памяць 1863 года — не толькі памяць, але і ідэі, у якім тлелі, як вугolle ў попеле, думы пра вызваленне—пакуль не прыйшоў іх гістарычны час.

Чытаю публіцыстыку Каліноўскага, а ў памяці словы Леніна: «Зварот з рэвалюцыйнай пропаведдзю да народа не прападае нават тады, калі цэлыя дзесяцігоддзі аддзяляюць сяўбу ад жніва».

□

**Нацыянальнае адраджэнне** ў Беларусі, буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя і яе вынікі для вырашэння нацыянальнага пытання, рухаючыя сілы гэтай рэвалюцыі на нацыянальных ускраінах Расійскай імперыі,— усё гэта з'явы, вядома ж, вельмі складаныя, і разабрацца ў іх няпроста. У прыватнасці асаблівай увагі, аб'ектыўнасці і сумленнасці патрабуе ад вучоных-гісторыкаў пытанне аб адносінах да буржуазна-дэмакратычнай і затым сацыялістычнай рэвалюцый лідэраў беларускага нацыянальнага адраджэння. Не можа быць сумнення, што ў большасці сваёй гэта былі вялікія патрыёты Бацькаўшчыны, шчырыя перад народам і ўласным сумленнем рупліўцы ў справе ажыццяўлення сацыяльных і нацыянальных ідэалаў працоўных Беларусі. Яны аказаліся спадчыннікамі выхаванага за стагоддзі недаверу да цэнтральнай — маскоўскай — улады, якая ніколі не ішла насустрач жыццёвым інтарэсам нацыянальных меншасцей, спадчыннікамі перайшоўшых у кроў, у гены, нацыянальных крыўд. Гэта выдатна разумеў У. І. Ленін, які неаднойчы гаварыў аб *гэтак званым* «нацыяналізме прыгнечаных нацый» і аб неабходнасці адрозніваць яго ад нацыяналізму нацый пануючых. На вялікі жаль, гэтага не разумелі многія прадстаўнікі партыйнай і Савецкай улады на Беларусі як у перыяд падрыхтоўкі і здзяйснення Кастрычніцкай рэвалюцыі, так і ў наступныя гады. Дакладней сказаць — і ва ўсе наступныя дзесяцігоддзі, бо азначанае неразуменне бесперашкодна дацягнулася аж да нашых дзён.

Вядома, многія лідэры беларускага нацыянальнага адраджэння былі — і ў ідэалогіі, і ў палітыцы — праваднікамі ідэі незалежніцтва, што, заўважым, зусім не пярэчыла ленінскай праграме РСДРП па *нацыянальным пытанні. Як толькі* некаторыя з іх убачылі і пераканаліся, што ў Савецкай Беларусі пачалося паспяховае ажыццяўленне іх запаветных ідэалаў («Беларусь на куце ў хаце сваёй села, Чарка мёду ў руцэ, Пазірае смела»)— яны шчыра паверылі новай, бальшавіцкай уладзе і гэтак жа шчыра прапанавалі свае паслугі, уключыліся ў вялікую культасветніцкую, навуковую і грамадска-палітычную працу, сталі віднымі дзяржаўнымі дзеячамі, акадэмікамі і г. д. Пасля, як мы ведаем, бадай што ўсе яны без вынятку, былі беспадстаўна рэпрэсіраваны і загублены. У маральным плане яны былі подла і гнюсна абмануты, на іх шчыры давер новая ўлада адказала ганебным вераломствам. Цяпер яны рэабілітаваны, а грахі ім усё ж прыпісваюцца ранейшыя. Напрыклад, у артыкулах пра Язэпа Лёсіка цытуюцца яго публічныя выказванні 1918—1920 гадоў, без абазначэння даты. Але паслухайце, таварышы гісторыкі, шаноўныя, што ж вы робіце? Гэта ж, выбачайце, элементарна непрыстойна. Хіба што-небудзь падобнае савецкі акадэмік Лёсік гаварыў пасля 1923 года, калі ў рэспубліцы быў узяты курс на беларусізацыю і *пачала паспяхова ажыццяўляцца ленінская нацыянальная палітыка?* У вас ёсць доказы, падставы сумнявацца ў шчырасці яго супрацоўніцтва з Савецкай уладай? Дык дакажыце ў такім разе! Але не спасылайцеся на тое, ад чаго ён сам, як і акадэмік Ластоўскі і іншыя, адмовіўся і што яму Савецкая ўлада даравала. Даравала, кіруючыся *прынцыпамі гуманнасці* і разуменнем, у поўнай згодзе з Леніным, што талентамі трэба даражыць і ўсяляк садзейнічаць таму, каб яны служылі народу. Дайце ж ім і цяпер, сёння, паслужыць свайму народу, не закрэслівайце іх імёны і іх навуковыя здабыткі. Аналізуйце, крытыкуйце, спрачайцеся — але не закрэслівайце. *Перамажыце ў сабе страх,* што вас абвінавацяць і вы страціце становішча. Павучыцеся ў гэтых мудрых папярэднікаў, у якіх любоў да Бацькаўшчыны была за ўсе страхі вышэй.

□

**Найвялікшы** рускі паэт сказаў: «Непавага да продкаў ёсць прыкмета дзікунства і варварства».

Гэта цалкам датычыць і нашых адносін да продкаў-вучоных, у прыватнасці—да тых, што маюць вялізныя заслугі ў галіне беларускай гістарыяграфіі, літаратуразнаўства, лінгвістыкі, геаграфіі, краязнаўства, гісторыі культуры... Маю на ўвазе, *па-першае, тых, што* плённа працавалі на Беларусі ў 20-я гады, а пасля былі беспадстаўна абвінавачаны ў контррэвалюцыйна - антысавецкай або шпіёнскай дзейнасці і рэпрэсіраваны (напрыклад, гісторык Усевалад Ігнатоўскі, мовазнаўца Сцяпан Некрашэвіч, літаратуразнаўца Вацлаў Ластоўскі, географ Аркадзь Смоліч, краязнаўца Мікола Каспяровіч і многія іншыя); па-другое, некаторых нашых вучоных дакастрычніцкай пары, зусім несправядліва занядбаных і адрынутых толькі на той падставе, што яны не былі марксістамі і наогул займалі ў грамадска-палітычным жыцці не самыя прагрэсіўныя пазіцыі (напрыклад, знакаміты ў свой час навуковец і літаратар Аляксандр Ельскі).

Тое, што імёны гэтых і многіх не названых тут вучоных былі надоўга выкінуты за борт, нанесла непапраўную шкоду як развіццю навукі і беларускай нацыянальнай культуры, так і патрыятычнаму выхаванню народа. Замест таго, каб даць іх працам аб'ектыўна навуковую ацэнку, сказаць, што ў іх каштоўнае, прымальнае і абавязкова прыгоднае для карыстання — мы іх закрэслілі і ўжо колькі дзесяцігоддзяў робім выгляд, што іх проста няма. А між тым — і гэта, бадай, самае страшнае — амаль ніхто з даследчыкаў гісторыі беларускай культуры без гэтых забароненых, выкінутых з навуковага ўжытку прац не абыходзіцца: ціхенька, употайкі, па-зладзейску яны выкарыстоўваюцца, — без спасылак на аўтараў. Дый як без іх абысціся, калі ў іх не толькі багаты фактаграфічны матэрыял, а і слушных думак — дай божа! Паколькі аўтары — нябожчыкі, то фактычна ўчыняецца... марадзёрства. Але, здаецца, нашу навуковую грамадскасць гэта ўжо не вельмі бянтэжыць — на фоне таго зладзейства, што працвітае паўсюль у краіне і што стала (божа ты мой мілы!) нормай нашай грамадскай маралі.

□

**Пачатак распрацоўкі** гістарычнай тэматыкі ў нашай мастацкай і дакументальна-мастацкай літаратуры ёсць. Але менавіта толькі пачатак. Сітуацыя з гістарычнай самасвядомасцю нашага народа на сёння такая, што ад зробленага пачатку нам трэба рашуча ісці далей — пісаць пра канкрэтныя эпохі, падзеі і эпізоды ў гісторыі Беларусі, пра канкрэтных гістарычных дзеячаў дзесяткі і сотні новых твораў у самых розных жанрах. Добра было б у гэтым сэнсе паглядзець на вопыт літаратур некаторых братніх народаў дый узяць з іх прыклад. Вунь колькі гістарычных раманаў паяўляецца на Украіне, у Грузіі, у Арменіі! А колькі вершаваных драм па гісторыі Літвы напісаў адзін Ю. Марцінкявічус (якія, дарэчы, датычаць і нашай гісторыі). Рускі пісьменнік Сяргей Аляксееў выдаў кнігу «Сто апавяданняў з рускай гісторыі». Падумаць толькі: адзін — і ажно сто апавяданняў гістарычнай тэматыкі! Вось яны, вартыя пераймання прыклады. Калі мы дадзім чытачам хаця б некалькі сот (!) дабрэнных раманаў, аповесцей, паэм і п'ес гістарычнага зместу — і — нібыта нікога не хвалюе, *мы не проста задаволім іх голад на такую літаратуру (а ён сёння ўжо вялікі),* — мы значна пасунем наперад справу нацыянальна-патрыятычнага выхавання ў рэспубліцы. Мы абавязаны прыйсці да такога становішча, калі ніводнай больш-менш значнай гістарычнай асобы не застанецца забытай. А пакуль што — пытанні, пытанні, пытанні: дзе раман або аповесць пра Кірылу Тураўскага? Пра князя Усяслава? Пра князя Міндоўга? Пра вялікага князя Вітаўта? Пра Міколу Гусоўскага? Пра Льва Сапегу? Пра Сымона Буднага? Пра Васіля Цяпінскага? Пра Сімяона Полацкага? Пра Паўлюка Багрыма? Пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча? Дзе кнігі пра Алеся Бурбіса? Пра Сцяпана Булата? Пра Ігната Буйніцкага? Пра Каруся Каганца? Пра Браніслава Тарашкевіча? Хто пачынаў нацыянальна-вызваленчы рух на Беларусі? *Хто пачуў і падхапіў* заклік Багушэвіча? Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі і іншыя прыйшлі тады, калі ўжо моцна разгарэлася полымя вызваленчых ідэй, калі ўжо досыць шырока лунаў кліч: беларускі народ, выходзь на гістарычную арэну! А хто былі тыя самыя першыя, што гэтыя ідэі сфарміравалі, што гэты кліч кінулі? Само ж па сабе ўсё гэта не зрабілася? Чаму ж мы не гаворым пра іх — гэных першых, пра іх жыццё і лёс? Чаму ўжо многія пакаленні беларусаў *не ведаюць іх імён?* Ганарымся, што ёсць свая суверэнная дзяржава — БССР, што беларуская нацыя прызнана народамі свету і займае законнае становішча сярод усіх нацый планеты, а пра тых, з каго ўсё гэта пачалося, маўчым?

А між тым — у кожнай славянскай краіне пра ідэолагаў нацыянальнага адраджэння, пра тых, што стаялі каля яго калыскі, створана вялізная гістарычная і мастацкая літаратура. У тых краінах гэта — нацыянальныя героі, пра іх не толькі пішуць, *ім прысвячаюць* кіна- і тэлефільмы, малююцца іх партрэты, ім ставяцца помнікі... Там ёсць разуменне, што эпоха нацыянальнага адраджэння — гэта надзвычай важны перыяд у гісторыі народа, калі вырашаліся вызначальныя для яго лёсу пытанні, абуджаліся рухаючыя сілы нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыі, нараджаліся вялікія постаці грамадска-палітычных і культурных дзеячаў. Ёсць разуменне, што сучасная дзяржаўная самастойнасць іх краіны, іх нацыянальная стабільнасць — гэта гістарычны вынік той гераічнай эпохі, вынік дзейнасці тых апантаных, самаахвярных людзей — пачынальнікаў... А ў нас? Многія-многія выдатныя сыны і дочкі Бацькаўшчыны або не ўспамінаюцца наогул, або і горш таго — аплёўваюцца... Плюндрыцца і ахайваецца тое, чым трэба ганарыцца!

□

Каму і за што ставяцца на радзіме помнікі, адкрываюцца музеі? Пытанне як быццам лішняе. Хіба не зразумела — каму? Таму, чыю памяць народ глыбока шануе, каго ён вельмі цэніць і любіць, каму асабліва ўдзячны — ці за грамадзянскія подзвігі, ці за таленавітую навуковую або мастацкую творчасць...

У нас, у Беларусі, на вялікі жаль, усё яшчэ не пастаўлены помнікі і не адкрыты музеі нават у гонар тых сыноў і дачок народа, якія гэтага несумненна заслужылі, імёны якіх у рэспубліцы, можна сказаць, легендарныя, вядомы людзям амаль ад калыскі, з ранніх гадоў дзяцінства... Няма, напрыклад, музея вялікага рэвалюцыянера-дэмакрата Кастуся Каліноўскага, няма помніка выдатнай паэтэсе-рэвалюцыянерцы Цётцы... Ужо колькі пакаленняў беларусаў выраслі, уваходзілі ў жыццё з іх імёнамі ў сэрцы і берагуць іх як свяшчэнныя сімвалы роднага краю, барацьбы за свабоду і шчасце народа...

(Працяг на стар. 12).

Сшыткі I—IV з публіцыстычнага цыкла Н. Гілевіча «Між былым і наступным» друкаваліся ў нумарах «ЛіМа» за 17 і 24 лютага, 10 і 17 сакавіка.

паступілі ў продаж. Саша прасіў: не трэба дарагую гітару, купіце звычайную, двараовую.

Вярнулася з магазіна, а ён дома.

— Ой, сыночак, праваронiла!

Убачыў гітару:

— Якая гітара прыгожая,—і танцуе па пакоі.—Я дома! Як у вас добра. У нашым пад'ездзе нават пах асаблівы.

Казаў, што ў нас самы прыгожы горад, самая прыгожая вуліца, самы прыгожы дом, самыя прыгожыя акацыі ў двары. Ён любіў гэты дом. Цяпер нам жыць тут цяжка—усё нагадвае пра Сашу, і з'ехаць цяжка—ён тут усё любіў.

Прыехаў ён гэты раз другім. Гэта не толькі мы, дома, але і ўсе яго сябры заўважылі. Ён ім гаварыў:

— Якія вы шчаслівыя! Вы нават сабе не ўяўляеце, якія вы ўсе шчаслівыя! У вас свята кожны дзень.

Я прыйшла з новай прычоскай з цырульні. Яму спадабалася:

— Мамачка, ты заўсёды рабі такую прычоску. Ты *такая прыгожая.*

— Грошай, сыночак, шмат трэба... Калі кожны дзень...

— Я прывёз грошы... Бярыце ўсе... Грошы мне не патрэбны...

У сябра нарадзіўся сын. Памятаю, з якім тварам ён папрасіў: «Дай патрымаць». Пад канец водпуску ў яго разбалеўся зуб, а зубнога ўрача ён баяўся з дзяцінства. За руку павяла ў паліклініку. Сядзім, чакаем, калі вырвуць. Гляджу—у яго на твары ажно пот выступіў ад страху...

Калі па тэлевізары ішла перадача пра Афганістан, ён выходзіў у другі пакой. За тыдзень да ад'езду ў яго туга ў вачах паявілася, яна з іх проста выплёсквалася. Можа, мне гэта зараз так здаецца. А тады я была шчаслівая: сын у трыццаць гадоў маёр, з ордэнам Чырвонай Зоркі прыехаў. У аэрапорце глядзела на яго і не верыла: няўжо гэты прыгожы малады афіцэр—мой сын. Я ім ганарылася!

Праз месяц прыйшоў ліст. Ён павіншаваў бацьку з днём Савецкай Арміі, а мне падзякаваў за пірагі з грыбамі. Пасля гэтага ліста са мной нешта здарылася... Не магу спаць. Вось лягу... Ляжу... Да пяці раніцы ляжу з расплюшчанымі вачамі...

Чацвёртага сакавіка бачу сон... Вялікае поле і па ўсім полі белыя выбухі... Штосьці ўспыхне... І цягнуцца доўгія белыя стужкі... Саша мой бяжыць, бяжыць... Кідаецца сюд-туд... Няма дзе яму схавацца... І там успыхнула... І там... Я бягу за ім... Хачу яго перагнаць... Хачу, каб я была наперадзе, а ён за мной... Як калісьці ў вёсцы мы трапілі пад навальніцу... Я яго прыкрыла сабою, ён пада мной ціхенька шкрабецца, як мышанё: «Мамачка, ратуй мяне!..» Але я яго не дагнала... Ён такі высокі, і крокі ў яго доўгія-доўгія... Бягу з усіх сіл... Вось-вось сэрца разарвецца... А дагнаць не магу...

...Грукнулі ўваходныя дзверы. Заходзіць муж. Мы з дачкою сядзім на дыване. Ён ідзе да нас праз увесь пакой у чаравіках, паліто, шапцы. Такога ніколі не было, ён у мяне акуратны, бо ўсё жыццё ў арміі, заўсёды ў яго дысцыпліна. Падышоў, укленчыў перад намі:

— Дзяўчаткі, у нас бяда...

Тут бачу я, што ў пярэднім пакоі яшчэ людзі ёсць. Заходзіць медсястра, ваенком, настаўнікі з маёй школы, знаёмыя мужа...

— Сашачка! Сыночак мой!!!

Ужо тры гады... А мы дагэтуль не можам адчыніць чамадан... Там Сашавы рэчы... Прывезлі разам з трунoю... Мне здаецца, яны Сашам пахнуць.

Яго адразу параніла пятнаццаццю асколкамі. *Ён толькі паспеў сказаць: «Балюча, мамачка!»*

Завошта? Чаму ён? Такі ласкавы? Як гэта яго няма? Марудна забіваюць мяне гэтыя думкі. Я ведаю, што я паміраю—няма больш сэнсу жыць. Іду да людзей, валачу сябе да людзей... Іду з Сашам, з яго *імем, расказваю пра яго...* Выступала ў політэхнічным інстытуце, падыходзіць да мяне студэнтка і кажа: «Менш бы гэтага патрыятызму ў яго напхнулі, быў бы жывы». Мне зрабілася блага пасля яе слоў. Я там упала.

Месяц хварэла, а пасля зноў пачала хадзіць, выступаць. Дзеля Сашы... Ён не можа знікнуць проста так... Ён не павінен знікнуць проста так...

**Алег ЛЕЛЮШЭНКА, радавы, гранатамётчык:**

«Да мяне прабіваліся толькі галасы, як я ні напружваўся, галасы былі безабліччныя. Яны то адыходзілі, то вярталіся. Здаецца, паспеў падумаць: «Паміраю». І расплюшчыў вочы...

Я апрытомнеў у Ташкенце на шаснаццаты дзень пасля падрыву. Галава балела ад уласнага шэпту, гучней, чым шаптаць, гаварыць не мог. Сюды трапіў пасля кабульскага шпіталю. У Кабуле мне ўскрылі чэрап—там была каша, выбралі дробныя кавалачкі касцей, сабралі на шрубы без суставаў левую руку. Першае адчуванне: жаль аб тым, што нішто не вернецца, не пабачу сяброў, а самае галоўнае—не змагу крутнуцца на турніку.

У шпіталі праваляўся без пятнаццаці дзён два гады. Васемнаццаць аперацый—чатыры пад агульным наркозам. Па мне студэнты курсавыя пісалі: што ў мяне ёсць, чаго ў мяне няма. Сам пагаліцца не мог, галілі хлопцы. Першы раз яны вылілі на мяне бутэлечку адэкалону, а я крычу: «Давайце другую!» Няма паху. Я яго не адчуваю. Вывалаклі ўсё з тумбачкі: кілбасу, агуркі, мёд, цукеркі — нішто мне не пахне. Колер ёсць, смак ёсць, а паху няма. Ледзь не звар'яцеў! Прыйшла вясна, дрэвы зацвілі, я ўсё гэта бачу, а не адчуваю. У мяне вынялі паўтара кубічнага сантыметра мозгу, і, пэўна, нейкі цэнтр быў выдалены, той, з якім звязаны пах. Я і цяпер, пяць гадоў мінула, не чую, як пахнуць кветкі, дым тытунёвы, жаночыя духі. Адэкалон магу ўчуць, калі пах грубы і моцны, але флакон трэба паднесці пад самы нос. Мусіць, тая частка мозгу, што засталася, узяла страчаную здольнасць на сябе.

У шпіталі атрымаў ліст ад сябра. Ад яго даведаўся, што наш бэтээр падарваўся на італьянскай фугаснай міне. Ён бачыў, як з рухавіком вылецеў чалавек... Чалавек махае рукамі і заціхае... Гэта быў я...

Выпісалі мяне, далі дапамогу трыста рублёў. Далей жыві, як хочаш. Пенсія—капейкі. Пераходзь на ўтрыманне бацькоў. У майго бацькі без вайны—вайна. Ён ссівеў, гіпертонікам стаў.

На вайне я не надта цяміў, што да чаго, пасля стаў разумець. І ўсё завярцелася ў другі бок...

Прызвалі мяне ў восемдзесят першым. Вайна ішла ўжо два гады, але на «грамадзянцы» пра яе ведалі мала і гаварылі мала. У нашай сям'і лічылася: калі ўрад паслаў туды войскі, значыць трэба. Так меркаваў мой бацька, суседзі. Не памятаю, каб хто-небудзь меў іншую думку. Нават жанчыны не плакалі, усё гэта было яшчэ далёка і не страшна. Вайна і не вайна, калі вайна, дык нейкая дзіўная, без забітых і палонных. Яшчэ ніхто не бачыў цынкавых трун. Гэта пасля мы даведаліся, што труны ўжо ў горад прывозілі, але хавалі цішком, ноччу, на магільных плітах пісалі памёр, а не загінуў. Але ні ў кога не ўзнікала пытання: чаго гэта раптам у нас пачалі паміраць дзевятнаццацігадовыя хлопцы? Ад гарэлкі ці ад грыпу, а, можа, грыбамі аб'еліся... Плакалі іх блізкія, а іншыя жылі, як і жылі. У газетах пісалі, што нашы салдаты будуюць там масты, саджаюць алеі дружбы, а нашы ўрачы прымаюць роды ў афганскіх жанчын...

У віцебскай «вучэбцы» не было сакрэтам, што нас рыхтуюць у Афганістан. Адзін прызнаўся, што баіцца, маўляў, нас там усіх перастраляюць. Я стаў ім пагарджаць. Перад самым ад'ездам яшчэ адзін адмовіўся: спачатку хлусіў—няма камсамольскага білета, білет знайшоўся, прыдумаў—дзяўчына ў яго раджае. Я лічыў яго ненармальным. Мы ехалі рабіць рэвалюцыю! Нам так гаварылі. І мы верылі. Бачылася наперадзе штосьці рамантычнае.

...Куля натыкаецца на чалавека, ты чуеш—яго не забыць, ні з чым не зблытаць—характэрны мокры пляскачык. Знаёмы хлопец побач падае ніц, у едкі, як попел, пыл. Ты пераварочваеш яго на спіну: у зубах заціснута цыгарэта, якую толькі што яму даў... Яна яшчэ гарыць... Першы раз дзейнічаеш, як у сне: бяжыш, валачэш, страляеш, але нічога не запамінаеш, пасля бою не можаш расказаць. Усё быццам за шклом... Як жахлівы сон бачыш. З перапуду прачынаешся, а ўспомніць нічога не можаш. Каб зведваць жах, аказваецца, яго трэба запомніць, прывыкнуць да яго. Праз два-тры тыдні ад цябе ранейшага нічога не застаецца, толькі тваё імя. Ты—гэта ўжо не ты, а іншы чалавек. І гэты чалавек, убачыўшы забітага, ужо не палохаецца, а спакойна ці з прыкрасцю думае аб тым, як будзе яго сцягваць са скалы альбо валачы па спякоце на сабе некалькі кіламетраў. Гэты чалавек не ўяўляе, а ўжо ведае, як пахнуць на сонцы вывернутыя вантробы, як не адмываецца пасля пах чалавечага калу і крыві... Як у бруднай лужыне расплаўленага металу высакаляюцца абгарэлыя чарапы—быццам некалькі гадзін назад тут не крычалі, а смяяліся, паміраючы. Ён ужо не можа думаць аб тым, чаму людзі любяць глядзець на смерць. Яму знаёма ўласнае і чужое ўзбуджэнне ў прысутнасці забітага: не мяне! Гэта так хутка адбываецца. Вось такое пераўтварэнне. Вельмі хутка. З усімі.

Для людзей на вайне ў смерці няма таемнасці. Забіваць—гэта проста націскаць на спускавы кручок. Нас вучылі: застаецца жывы той, хто стрэліць першы. Такі закон вайны. «Тут вы павінны ўмець дзве справы—хутка хадзіць і трапна страляць. Думаць буду я»,—гаварыў камандзір. Мы стралялі, куды нам загадаюць. Я быў прывучаны страляць туды, куды мне загадаюць. Страляў, не шкадаваў нікога. Мог бы забіць дзіця. З намі там ваявалі ўсе: мужчыны, жанчыны, старыя, дзеці... Увесь народ...

Ідзе калона праз кішлак. У першай машыне глухне матор... Вадзіцель выходзіць, падымае капот... Хлапчанё, гадоў дзесяці, яму нажом у спіну... Там, дзе сэрца... Салдат і лёг на рухавік... З хлапчаня рэшата зрабілі... Дай у той момант каманду—ператварылі б кішлак у пыл... Кожны стараўся выжыць. Думаць не было калі. Нам жа па васемнаццаць—дваццаць гадоў. Да чужой смерці я прывык, а ўласнай баяўся. Бачыў, як ад чалавека за адну секунду нічога не застаецца, быццам яго зусім не было. І ў пустой труне адпраўляюць на радзіму парадную форму. Чужой зямлі насыпяць, каб неабходная вага была...

Хацелася жыць. Ніколі так не хацелася жыць, як там. Вернемся з бою, смяёмся. Я ніколі так не смяяўся, як там. Старыя анекдоты ішлі ў нас за першы гатунак.

Трапіў фарцоўшчык на вайну. Першым чынам высветліў, колькі чэкаў каштуе адзін палонны душман? Восем чэкаў. Праз два дні пыл слупам ля гарнізона: вядзе ён дзвесце палонных. Сябрук просіць: «Прадай аднаго за сем чэкаў».—«Ты што? Сам за дзевяць купіў».

Пра грошы гаварылі шмат. Больш, чым пра смерць. Я нічога не прывёз, асколак, які з мяне выцягнулі, і ўсё. Фарфор, каштоўныя камяні, біжутэрыя, дываны... Хто прывозіў з баявых, калі хадзілі ў кішлакі... Хто купляў, мяняў... Ражок патронаў за касметычны набор—туш, пудра, цені для каханай. Патроны прадавалі вараныя. Куля вараная не вылятае, а выплёўваецца са ствала. Забіць ёю нельга. Ставілі вёдры ці тазы, кідалі патроны і кіпяцілі гадзіны дзве. Гатова! Вечарам неслі іх на продаж. Бізнесам займаліся ўсе. Камандзіры і салдаты. Героі і баязліўцы. У сталоўках зніклі нажы, міскі, лыжкі, відэльцы. У казармах не далічваліся кубкаў, табурэтак, малаткоў. Прападалі штыкі ад аўтаматаў, люстэркі з машын, запчасткі, медалі... У духанах бралі ўсё, нават тое смецце, што вывозілася з гарнізоннага гарадка: бляшанкі з-пад кансерваў, старыя газеты, іржавыя цвікі, кавалкі фанеры, цэлафанавыя мяшэчкі... Смецце прадавалася машынамі. Вось такая гэта была вайна...

Нас завуць «афганцамі». Чужое імя. Як знак. Метка. Мы не такія, як усе. Іншыя. Якія? Я не ведаю, хто я. Герой ці дурань, на якога трэба пальцам паказваць. А можа, злачынец? Ужо гавораць, што гэта была палітычная памылка. Сёння ціха гавораць, заўтра будуць гучней. А я там кроў пакінуў... Сваю... І чужую... Нам давалі там ордэны, якія мы не носім... Мы яшчэ будзем іх вяртаць... Ордэны, атрыманыя сумленна на несумленнай вайне... Запрашаюць выступаць у школы. А што расказваць? Пра баявыя дзеянні не будзеш расказваць. Людзей нецікава забіваць. Пра тое, як я дагэтуль баюся цемнаты, што-небудзь упадзе—здрыгануся? Як бралі палонных, але да палка не даводзілі. За ўсе паўтара года я не бачыў ніводнага душмана жывога, толькі мёртвых. Пра кішлакі пасля артылерыйскай апрацоўкі, падобныя ўжо не на жыллё, а на скапанае поле? Пра гэта, ці што, хочуць пачуць у нашых школах? Не, там патрэбны героі. А я памятаю, як мы разбуралі, забівалі і будавалі, раздавалі падарункі. Усё гэта існавала так побач, што аддзяліць дагэтуль не магу. Баюся гэтых успамінаў... Адступаюся, уцякаю ад іх... Не ведаю ніводнага чалавека, хто б вярнуўся адтуль і не піў, не курыў. Слабыя цыгарэты мяне не ратуюць, шукаю «Паляўнічыя», якія мы там курылі. Мы іх назвалі «Смерць на балоце».

Не пішыце толькі пра нашае афганскае брацтва. Яго няма. Я ў яго не веру. На вайне нас яднаў страх. Нас аднолькава падманулі, мы аднолькава хацелі жыць і аднолькава хацелі дадому. Тут нас лучыць тое, што ў нас нічога няма. У нас адны праблемы: пенсіі, кватэры, добрыя лекі, пратэзы, мэблевыя гарнітуры... Вырашым іх, і нашы клубы распадуцца.

Моладзь да нас не пахінулася. Яна бачыць, што мы на могілках п'яныя нейкія песні спяваем. Мы незразумелыя ёй. Быццам прыроўнены да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, але тыя Радзіму абаранялі, а мы? А мы злосныя на іх. Яны тут музыку слухалі, з дзяўчатамі танцавалі, кніжкі чыталі, пакуль мы там кашу сырую елі і падрываліся на мінах.

Праз дзесяць гадоў, калі ў нас вылезуць нашы гепатыты, кантузіі, малярыя, ад нас будуць пазбаўляцца... На рабоце, дома... Нас перастануць саджаць у прэзідыумы... Мы ўсім абрыдзеем... Навошта ваша кніга? Для каго? Нам, хто адтуль вярнуўся, усё роўна не спадабаецца. Хіба раскажаш усё, як было? Як забітыя вярблюды і забітыя людзі ляжаць у адной лужыне крыві, іх кроў перамяшалася... А больш каму гэта патрэбна? Мы ўсім чужыя. Усё, што ў мяне засталося, гэта—мой дом, жонка, дзіця, якое яна хутка народзіць. Некалькі сяброў адтуль. Больш я нікому не веру...»

*З паэтычнай пошты*

**Мікола КАВАЛЕЎСКІ**

# Сябрам

## Спроба паэмы-споведзі

### I

Мы выйшлі з «Хрушчоўскай Адлігі» —
на картах яе не знайсці,
як горада продкаў Нямігі,
што ўшчэнт зруйнавалі вякі.
Нас вырасціў подых вясенні
вялікіх задум і надзей...

...Узнёсласці гэтай насенне
застой замарозіў пазней...

Старэлі душой мы заўчасна —
юнацкі запал не ў цане.
Паходня імкненняў пагасла
ў бадзёра-параднай мане.
Ад сіверу вочы блішчэлі,
а думкі душыла духмень.
І сэрцы пакутна дранцвелі,
адчуўшы, што Сталіна цень
знішчае апошнія промні
таго, у што верылі мы...
...Адлігу хавалі бязмоўе,
і прыкрая шэрасць зімы...

На розум паменшыўся попыт —
прыйшла «выканаўцаў» пара.
І хоць не цягнула на допыт —
сякла аднадумства віжа.
Змагацца ўжо сіл не ставала:
куды уцячэш ад сябе?!
Зламаных жа роспач кідала
шукаць забыцця у віне.
Было нам тым часам па сорак —
наперадзе толькі імжа...

...Неяк жахліва-паскорана
Айчына да бездані йшла...

### II

Здрада Радзіме — злачынства.
Здрада сабе — ўжо звычка:
свядомасці і дабрачынства
яна набыла абліччa.

І роздумы, і сумненні
адкінуты бы насланнё —
разгубленыя пакаленні
за праўду прымаюць усё.
Цураемся роднай мовы
І Бацькаўшчыны сваёй —
Душа не трывожыцца, бо мы
не памятаем аб ёй.
Магічнае слова «трэба» —
І Біблія і Закон:
патрэбна — сумленнем пагрэбуй,
на шчырасць навесь праклён.

Абвергнуць хлусню адразу
кінецца толькі працяк,
бо кленчыць штодня не абраза —
адданасці сціплай знак.

Пра Піравы перамогі
гудзе бясконцая медзь —
нічога, апроч знямогі,
краіне ад іх не мець.

Пакорлівасцю бясслоўнай
атручан жыцця абсяг —
смяротны Чарнобыль духоўны
не закаваць ў саркафаг,

...Далёка той час, калі мы
абудзімся у бядзе:
пакуты і сорам Радзімы —
плата за здраду сабе...

### III

...Красавік так натхнёна віталі,
Што, здавалася, кожны гатоў
Кінуць сэрца на Праўды скрыжалі
І ачысціць сябе ад грахоў.

Хваля гэта на выгляд мацнела:
Падымала, цягнула, нясла...
Толькі неяк няўзнач памутнела
Скаланутая ёю вада.

Той — смуткуе аб сіле дыктату.
Той — за крэсла-пасаду дрыжыць.
Гэты — кідае гучна цытату.
Гэты — сіліцца моўчкі пражыць.

Што мы дзецям, унукам пакінем?
Што, нарэшце, рыхтуем сабе?
Ад таго ўсё залежыць якімі
Будуць справы на нашай сяўбе.

Пустазелле калі не адвеем,
Абыякава станем араць,
Альбо рунь зацярушыць завея —
Ураджаю ізноў не сабраць...

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# «Мы без грыму»

**Напярэдадні адкрыцця новага сезона ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР тут адбыўся незвычайны вечар. «Мы без грыму» — удакладняла сціплая афіша, запрашаючы гледачоў на сустрэчу з калектывам тэатра. Уваход быў для ўсіх — не патрабавалася ніякіх білетаў, і кожны змог выбраць для сябе ўтульнае крэсла ў партэры ці ў бенуары.**

**На сцэне размясціліся аркестр і хор, ля аркестравай ямы, тварам да залы, уладкаваліся тыя, хто адказваў на пытанні гледачоў, распавядаў пра набыткі мінулага сезона, пра гастрольнае лета тэатра, яго бліжэйшыя прэм'еры і планы, пра маладое творчае папаўненне. Гэта мастацкі кіраўнік ДАВТа А. Анісімаў, галоўны балетмайстар В. Елізар'еў, дырэктар В. Букань, рэжысёр-пастаноўшчык С. Штэйн, кансультант новага опернага спектакля «Маддалена» музыказнавец Н. Саўкіна... Выконваліся вакальна-сімфанічныя фрагменты з опер і балетаў; дэбютавалі стажоры опернай трупы І. Емяльянаў і А. Гарабец, малады артыст аркестра скрыпач В. Тарабука; спявалі майстры сцэны А. Саўчанка, В. Цішына. М. Маісеенка; за дырыжорскі пульт выходзілі А. Анісімаў, М. Калядка, В. Лявонаў.**

**Гледачы даведаліся, што тэатр працуе ўжо над операй «Кармэн» і балетам «Спячая красуня». што сёлета некаторыя спектаклі бягучага рэпертуару будуць ігрwelcome на сцэне Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР, што ў канцэртным выкананні прагучыць оперны шэдэўр Д. Вердзі «Рыгалета». Намеснік міністра культуры БССР У. Рылатка, удзельнік сустрэчы з гледачамі, вылучыў як самую яркую нядаўнюю падзею ў жыцці ДАВТа паспяховыя гастролі беларускага балета ў Англіі. Цікава, што ні беларускія трактары, ні «МАЗы» не змаглі прабіцца на англійскі рынак — а наша харэаграфічнае мастацтва заваявала яго з трыумфам. Буйныя газеты Англіі называлі гэтыя гастролі «дзіцём перабудовы», бо дасюль тут нічога не ведалі пра савецкае харэаграфічнае мастацтва, апроч балета з Масквы ды Ленінграда. Англійскія крытыкі параўноўвалі наш балет са спектаклямі Вялікага тэатра, які закончваў гастролі ў Лондане перад прыездам мінскіх артыстаў. Многа добрых слоў было сказана пра мастацтва харэографа В. Елізар'ева, поспех меў і дырыжор А. Анісімаў.**

**...І вось ДАВТ БССР адкрыў сезон операй У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха» (творчы калектыў спектакля адзначаны спецыяльнай прэміяй Мінкульта БССР). Праз дзень адбылася прэм'ера аднаактовых опер «Маддалена» С. Пракоф'ева (першая пастаноўка ў СССР) і «Медыум» Д. Меноцці. А Міжнародны дзень музыкі тэатр адзначыў паказам оперы В. Моцарта «Чарадзейная флейта» і аднаактовых спектакляў балетмайстра В. Елізар'ева.**

**С. ВЕТКА.**

# Поспех беларускіх лялечнікаў

**Дваццаць два творчыя калектывы з адзінаццаці краін узялі ўдзел у Міжнародным фестывалі лялек, які прымаў югаслаўскі горад Заграб. Савецкі Саюз быў прадстаўлены Дзяржаўным тэатрам лялек БССР. Беларускія артысты-лялечнікі выступілі паспяхова, увайшлі ў лік пераможцаў фестывалю, атрымаўшы дыплом 1-й ступені за спектакль «Здарэнне ў горадзе Гога», пастаўлены рэжысёрам Эдзі Майаронам.**

**Вярнулася з зарубежных гастроляў і другая група тэатра, якая з п'есай «Дзед і жораў» В. Вольскага наведала некалькі гарадоў Нідэрландаў і дала адзінаццаць спектакляў для юных і дарослых гледачоў.**

# Другі музычны педсавет

**Госці з многіх саюзных рэспублік, з Масквы, з Польскай Народнай Рэспублікі прыехалі ў Мінск для ўдзелу ў Рэспубліканскім педагагічным савеце па музычным выхаванні школьнікаў. Першы такі педсавет адбыўся летась у Гродне. І вось — новая сустрэча работнікаў народнай адукацыі, дзеячаў культуры і музычнага мастацтва, неабыякавых да эстэтычнага, духоўнага выхавання падрастаючых пакаленняў. Наладзіла гэтую сустрэчу Музычнае таварыства БССР пры ўдзеле Міністэрства народнай адукацыі і Міністэрства культуры рэспублікі.**

**Два дні ў зале Мінскага музычнага вучылішча вяліся спрэчкі пра стан, праблемы, шляхі паляпшэння музычна-эстэтычнага выхавання дзяцей, падлеткаў, моладзі. Гутарку за «круглым сталом» адкрыў старшыня праўлення МТ БССР М. Дрынеўскі. Удзельнічалі ў ёй кіраўнікі школьных харавых калектываў і прадстаўнікі міністэрстваў, рэдактары Дзяржтэлерадыё і спецыялісты па дашкольным выхаванні, музыканты-педагогі і работнікі філармоніі. Адбылася і работа па секцыях: выкладчыкаў музычных навучальных устаноў і агульнаадукацыйных школ, кіраўнікоў дзіцячых харавых калектываў, музычных кіраўнікоў дзіцячых садоў. Удзельнікі педсавета змаглі наведаць музычны лекторый, які вядзе музыказнавец А. Парэцкі, паслухаць п'есы з «Полацкага сшытка» ў выкананні ансамбля старадаўняй музыкі «Бахаўскі гурток» Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, якім кіруе Э. Габрыэлян, а таксама з'ездзіць на экскурсію па Мінску.**

**Перад «свабодным мікрафонам» педсавета выказваліся часам палемічныя, нават супрацьлеглыя меркаванні, але агульны пафас выступленняў быў такі: музычна-эстэтычнае выхаванне ў рэспубліцы, як і ў краіне ў цэлым, апусцілася на катастрафічна нізкі ўзровень, і калі не прыняць дзейсных захадаў, працэс маральнай, духоўнай дэградацыі людзей будзе незваротны.**

**Больш падрабязна пра тое, што і як абмяркоўвалася пад час дыскусіі, мы раскажам у лімаўскіх нататках з музычнага педсавета.**

# Адкрылася «Акадэмія»

**Пэўна, гэта будзе адметная традыцыя нашага музычнага жыцця: як рахманінаўскія курсы для піяністаў — у Тамбове, як ойстрахаўскія — у Вільнюсе. А пакуль «Акадэмія старадаўняй музыкі» (усесаюзныя вышэйшыя курсы выканаўчага майстэрства) у Мінску робіць першыя крокі.**

**Курсы адкрыліся 2 кастрычніка. Ініцыятары іх правядзення — Музычнае таварыства БССР і Беларуская дзяржаўная кансерваторыя. Маладых выканаўцаў з многіх гарадоў краіны прывабіла магчымасць наведаць заняткі, якія ладзяць у «Акадэміі» вядомыя музыканты Мінска, Масквы, Ленінграда. Паразважаць над праблемай інтэрпрэтацыі музыкі барока. Заняткі вядуцца па трох спецыяльнасцях: арган (арганная імправізацыя), ансамбль старадаўняй музыкі і клавесін. Праграмай прадугледжана, што пасля заканчэння пэўнага курса яго слухачы даюць канцэрт у Зале камернай музыкі Беларускай дзяржаўнай філармоніі або ў зале БДК. Мяркуюцца і канцэртныя выступленні педагогаў.**

**Кіраўнік майстэрні аргана заслужаны артыст РСФСР Алег Янчанка пад час пасяджэння, якім адкрылася «Акадэмія», заначыў, што дасюль ён адчуваў сябе ў музыцы «вольным мастаком», і вось упершыню даводзіцца выступаць у ролі педагога. Курс арганнай імправізацыі, які ён вядзе для слухачоў «Акадэміі», і аснову павінен мець імправізацыйную. У далейшым А. Янчанка мае намер давесці неабходнасць такога курса для студэнтаў кансерваторыі, прынамсі, піяністаў, бо імправізацыя — выток і аснова музіцыравання, зарука творчага разняволення для кожнага выканаўцы, хоць крышку далучанага да гэтага мастацтва.**

**На жаль, у нас у краіне няма фундаментальных прац пра імправізацыю, і выкладчыку сапраўды даводзіцца імправізаваць. Але А. Янчанка далучыўся да вопыту заходніх арганістаў, калі наведаў курсы імправізацыі ў Галандыі, калі сустракаўся з замежнымі калегамі. У Мінск ён прывёз цікавыя запісы ігры заходніх імправізатараў, якія працуюць у розных манерах, раскрываючы бязмежныя выразныя магчымасці аргана.**

**«Акадэмія старадаўняй музыкі» закончыць работу 21 кастрычніка.**

**НАШ КАР.**

# Львоўскі тэатр у Брэсце

**На гастролі ў горад на Бузе прыехаў калектыў Львоўскага тэатра юнага гледача імя М. Горкага. Для маленькіх берасцейцаў артысты з Львова прывезлі спектакль «Тры Іваны — тры браты» (п'еса А. Вольскага, пераклад на ўкраінскую мову Б. Чалага). Пастаноўку ажыццявіў галоўны рэжысёр тэатра М. Лукавецкі. Музыка беларускага кампазітара Э. Зарыцкага.**

## *Працяг размовы*

# Канкурэнцыя ў інтарэсах... рубля?

Загаловак для гэтай публікацыі прапанавала вядомая беларуская артыстка, ветэран філарманічнай эстрады Ганна Рыжкова, якая завітала ў рэдакцыю са сваім болем, са сваёю крыўдай, са сваімі трывогамі. Зрэшты, не толькі са сваімі... Але перш чым згадаць нашу гаворку, я прапаную невялічкую прэлюдыю.

Апошнім часам на праблемы жыцця канцэртнага міжволі звяртаюць увагу тысячы людзей — тыя нават, хто не прапагандуе музычную класіку, не іграе джаз, не распаўсюджвае білеты на кааператыўныя канцэрты, не займаецца арганізацыяй гастроляў беларускіх артыстаў у роднай рэспубліцы. Дзіва што: прычыны крызісу ў філарманічных справах і пікантныя асаблівасці кааператыўнай плыні ў канцэртным жыцці абмяркоўваюць ужо чытачы не толькі «Советской культуры» ці «ЛіМа», а і «Советской Белоруссии», і «Вячэрняга Мінска»... Карэспандэнты БЕЛТА А. Вальвачоў і Р. Новікаў разам са сваімі субяседнікамі, героямі публікацый на гэтую тэму раз-пораз падкідаюць спажыву і для няспешнай аналітычнай гаворкі, і для абывацельскіх эмоцый, і для прафесійнай палемікі.

Праўда, падаецца, што нашы калегі не зусім карэктна скіроўваюць позіркі — і свае, і чытацкія — на кашалькі ды кішэні вядомых артыстаў, падлічваючы іхнія «мільёны». Да таго ж, не высокія ганарары эстрадных «зорак» прычына фінансава-творчага заняпаду дзяржаўных канцэртных арганізацый — мо ўсё якраз наадварот?

Вядома, што для кожнага куміра папулярнасць, эстрадная слава, натоўпы паклоннікаў, гатовых пераплаціць за білет, не бываюць стабільнымі. Ніводны кумір не гарантаваны ад раптоўнай страты пеўчага голасу, ад няміласці публікі і мізэрнай пенсіі ў старасці. У такім разе можна растлумачыць паводзіны артыста, зразумець ягонае жаданне скарыстаць свой шанц і забяспечыць сабе, сваёй сям'і эканамічна ўстойлівае сёння і «страхоўку» надалей. Іншая справа — чыстай вады дзялкі, якія паразітуюць на папулярнасці ягонага імя, спекулююць гэтым імем, балансуюць паміж законам і беззаконнасцю... Але ж нават у такіх выпадках ніхто не мае права публічна, у друку, назваць іх рэкецірамі, вымагацелямі, пакуль іхняе злачынства не даказана ў судзе. Можна слушна абурацца здарэннем у Мінску з канцэртамі Жэні Белавусава, патрабаваць юрыдычнага даследавання факта зрыву ягоных выступленняў на стадыёне, але па гарачых слядах рабіць журналісцкія высновы, ужываючы тэрмін «адкрыты шантаж і вымаганне»,—гэта, як бы нам таго ні хацелася, не метад барацьбы з арганізаванай злачыннасцю. Гэта парушэнне закона, перад якім усе мы роўныя: і журналіст, і рэкецір, які можа падаць на неабачлівага журналіста ў суд за паклёп і зняважу асобы.

Але ўсё гэта, у рэшце рэшт, не прасвятляе прычыну саміх крызісных працэсаў у філарманічнай сферы. Ёсць прынятая тры гады таму пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР аб паляпшэнні канцэртнай справы ў краіне — ды не відаць абгрунтаваных калегіяльных прапаноў наконт спынення дэструктыўных працэсаў у філарманічным жыцці. Так што невыпадкова серыя тых публікацый БЕЛТА ў розных выданнях зрабілася штуршком да

## *Тэатр*

# На строме адвечнай ракі

**«РОСПАЧ» паводле У. Караткевіча ў тэатры-студыі «Дзе-Я»**

ТВОРЫ Уладзіміра Караткевіча ўжо зведалі *ўласны лёс* і *вызначылі* свае, часам таемныя, стасункі з часам. Гады не аддалілі, а наблізілі іх да нас. Ці, можа, *гэта мы, паспытаўшы* крызісу веры, ідэалаў, пераасэнсавання гісторыі, сталі бліжэй да філасофскага трагізму светаадчування пісьменніка. Таму мне здаецца, што літаратурнае пачуццё не падманула М. Трухана, які паспрабаваў на матэрыяле прозы Караткевіча асэнсаваць вечную праблему выбару паміж прагаю дабрыні, страхам смерці і смуткам па ісціне. У спектаклі вольна закампанаваны тэмы, сюжэты, персанажы з твораў У. Караткевіча. Фабульная сітуацыя запазычана з аповесці «Ладдзя роспачы». Яна *надзвычай* выразная драматычна (увогуле мне здаецца, што проза Караткевіча куды больш тэатральная за ягоную драматургію) — *гэта пераправа памерлых праз Лету*. Яны адштурхнуліся ад берага жыцця, а да берага мёртвых *яшчэ не прысталі*, быстрыня ракі закружыла іх, і расказ аб замяшанні душ, што яшчэ не абарвалі сувязі з жыццём і *ўжо адчулі ўладу смерці*,—асноўны змест спектакля. Праўда, гэта занадта «плаўная» фраза, яна не перадае сцэнічнай атмасферы. У спектаклі — хуткапіс страху, спадзявання, мары, стэнаграма перадсмяротных успамінаў. Ад гэтага — рваны, блытаны рытм, тэмы, якія раптоўна ўзнікаюць і абрываюцца...

У гэтую зыходную сітуацыю, як у раму, устаўлены сюжэтны шэраг рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Матывы «Ладдзі роспачы» — эмацыянальны камертон спектакля, своеасаблівае «memento more», увасобленае ў вобразе Смерці.

Вырашэнне гэтага вобраза, аднаго з цэнтральных у спектаклі, *шмат у чым* вызначае інтэлектуальны ўзровень пастаноўкі, яе філасофскае гучанне. Смерць стаіць над асноўным канфліктам (*у гэтым* заключаецца складанасць выканання ролі), яна каментатар падзей і апанент галоўнага героя — мужыцкага Хрыста Юрася Братчыка. Смерць нясе горкую думку аб марнасці зямнога, марнасці свету, досыць дэмакратычна, так бы мовіць, у духу часу сцвярджаючы, што канец адзін і для цара, і для яго апошняга раба. Філасофскія тэксты Караткевіча ў вуснах Смерці *бліскучыя, глыбокія*, паэтычныя, але... (гэтыя адвечныя але!)... Смерць — адзіны персанаж спектакля, які прыйшоў *з аповесці «Ладдзя роспачы»*, і інсцэніроўшчык М. Трухан не змог даць гэтаму вобразу належнай дзейнай лініі *ў сюжэтным шэрагу* рамана. Яе ўзаемадзеянні з героямі засталіся нявыбудаванымі (у нейкай ступені выключэнне складае толькі Юрась). У другой частцы спектакля, з набліжэннем кульмінацыйных сцэн, вобраз Смерці канчаткова адыходзіць на другі план, хоць гэта супярэчыць логіцы драматургічнай канструкцыі. Ладдзя рухаецца да берага мёртвых і ўлада Смерці над героямі спектакля павінна з цягам дзеі мацнець. Рэжысёры і выканаўца ролі Смерці Т. Міронава паспрабавалі дапоўніць драматургічныя пралікі ігравымі сродкамі — «шаманскім» грымам, вострай характарнасцю. У выніку перад гледачамі прадстаў не інфернальны філосаф, а нейкі недарэчны варыянт Бабы-Ягі. Вядома, стварэнне гэтага вобраза — справа нялёгкая. Даць цела, голас, пластыку няўлоўнай мяжы паміж жывымі і нежывымі, філасофскай катэгорыі, неразгаданай тайне... Але... (гэтыя адвечныя але)... *у тэатры няма нічога* немагчымага і В. Баркоўскі пацвердзіў гэта яшчэ раз, увасобіўшы другую філасофскую катэгорыю — *д'ябла*.

У спектаклі яго клічуць Лотрам. Ён з'яўляецца сярод спадарожнікаў, як апошняя надзея *на жыццё, на ратунак, на* паварот ладдзі. Ён узнікае там, дзе, здавалася, ужо няма нічога, акрамя цемры небыцця. Ён падобны на святара, на *князя, на пастуха*, які збірае статак пераляканых авечак. Ён ведае, чаго хоча. Лотр упэўнена робіць немагчымае: ён дае *падарожнікам* адтэрміноўку, ён спыняе ладдзю, вяртае жыццё, патрабуючы ўзамен толькі адно — іх памяць...

«... *З імі можна* зрабіць што хочаш. Дзяцей трэба забраць і прымусіць думаць пасвойму...»

Памяць — *шмат гэта ці няшмат* узамен на радасць жыць, дыхаць, глядзець у неба?.. Трэба проста забыцца на тых, *каго любіш*, на тое, ува што верыш...

«Сон... Сасніў я сон. Нібыта забыў я сваё імя. І непамысна мне так. Не ўспомню імя — і ўсё. І думаю: вось чорт! Ва ўсіх жа ёсць імя, а ў мяне аднаго няма».

Усе мы, хоць як, хоць калі бачым раз-пораз гэты сон Юрася Братчыка. Тэма памяці, яе страты, яе абуджэння — стрыжнёвая ў спектаклі. Да яе пастаянна вяртаюцца яго героі. Памерці, паводле Смерці, — гэта пазбыцца памяці. Бессмяротнасць — яе захаванне. Бяспамятнасць людзей — умова ўлады Лотра. Вяртанне ім памяці — перамога Юрася Братчыка.

М. Трухан не імкнецца асучасніць Караткевіча: фантастычнае месца дзеяння, еван-

праблемнага артыкула «Валавая арыфметыка», з якім выступіў у «ЛіМе» (22 верасня г. г.) спрактыкаваны філарманічны работнік М. Кацнельсон. Падобная нагода прывяла да нас у рэдакцыю і заслужаную артыстку БССР Г. Рыжкову.

Дык вось. Ганна Паўлаўна паклала на рэдакцыйны стол выразку з «Вячэрняга Мінска» за 24 жніўня і пачала:

**— Прыязджаю я з гастроляў — *была на Сахаліне* — і раптам заўважаю ў старой газеце загаловак: «Канкурэнцыя ў інтарэсах гледача». І зверху рубрыка: «З кампетэнтных крыніц». І калі я гэта пачала чытаць, ува мне ўзнікла пачуццё неверагоднага абурэння. Я ўсё сваё артыстычнае жыццё — вось ужо 28 гадоў — чытаю са сцэны сатыру і гумар, прапагандую сумленнае, вострае, з'едлівае, трапнае слова нашых літаратараў. І ў мяне проста арганічная, на сцэне і ў жыцці, пагарда і нянавісць да абібокаў, да бюракратаў!**

Публікацыя, пра якую гаварыла Г. Рыжкова, паведамляла, што Мінгарвыканкомам прынята часовае *палажэнне аб парадку правядзення тэатральна-канцэртнай работы ў Мінску*. Карэспандэнт БЕЛТА А. Вальвачоў папрасіў пракаменціраваць гэты факт Ч. Муліцу — намесніка начальніка ўпраўлення культуры Мінгарвыканкома.

Аказваецца, неабходнасць упарадкавання гастрольнай дзейнасці ў Мінску вымусіла гарвыканком прыняць такое рашэнне, бо з'явілася ўжо шмат гасразліковых пасрэдніцкіх і канцэртных арганізацый, якія запрашаюць гастралёраў, складаюць размаітыя шоу, і да руху гэтага часцяком далучаюцца людзі, для якіх «галоўным застаюцца грошы, а клопат пра добрую арганізацыю, высокі мастацкі ўзровень прапануемых гледачу праграм адыходзіць на другі план». «Часовае палажэнне» будзе скасавана адразу пасля стварэння пры ўпраўленні культуры гарвыканкома «Мінскканцэрта» — арганізацыі, якая і зоймецца тэатральна-канцэртнай работай, атрымаўшы, апроч іншага, права і на самастойную арганізацыю гастроляў у горадзе.

А як жа цяперашнія канцэртныя ўстановы?

**«Няхай будзе канкурэнцыя», — прапануе ўпраўленне культуры Мінгарвыканкома, тым больш што ў гэтай справе яно толькі пазычае «вопыт, назапашаны ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве». І яшчэ працытую: «выкарыстанне, скажам, залаў пры іх дэфіцыце павінна быць цэнтралізавана. Трэба наводзіць парадак і ў графіках гастроляў,... разумна рэгуляваць суадносіны эстраднай і класічнай музыкі... Пазбягаць проста прыкрых накладак. Ці апраўдана, напрыклад, з'яўленне ў адзін час афіш тэатра Алы Пугачовай і Горкаўскага драматычнага? Канечне ж, прыезд у наш горад вядомай спявачкі пакіне пустымі залы на *спектаклях гаркаўчан*. «Мінскканцэрт» жа зможа планаваць гастролі загадзя — на год-два наперад, да чаго, дарэчы, заклікаем і ўсе зацікаўленыя арганізацыі».**

Дзіву даешся: няўжо гэта ўсур'ёз? Няўжо «канкурэнцыя» паміж Белдзяржфілармоніяй, Міністэрствам культуры, якія дасюль займаліся наладжваннем гастроляў, цэнтралізаваным размеркаваннем асноўных глядзельных залаў і, што істотна, не толькі сталічнага горада, а і рэспублікі ў цэлым, — і «Мінскканцэртам» сапраўды дапаможа пазбегнуць блытаніны і хаосу: ці не здарыцца наадварот? І чаму адначасовае выступленне ў горадзе А. Пугачовай і драмтэатра з Горкага вызначаецца як прыкрая накладка? У кожнага віду мастацтва свае прыхільнікі... Думаць жа, што адны і тыя ж людзі будуць штовечар купляць шасцірублёвыя білеты на стадыённыя выступленні спявачкі ды яшчэ лічыць іх патэнцыяльнымі гледачамі горкаўскага тэатра — гэта, так бы мовіць, не зусім лагічна. А што пуставаў тэатр пад час канцэртаў Пугачовай, дык ён пуставаў і ў іншы час. Тут «прыкрая накладка» не ў планаванні гастроляў, а ў масавым эстэтычным выхаванні. І ўжо гэтую накладку «Мінскканцэрт» не пераадолее...

Не хачу рабіць заўчасных высноў. Я толькі разважаю над рашэннем Мінгарвыканкома. Дзеля чаго яно прымалася? Упарадкаваць канцэртнае жыццё — намер, вядома, добры. «Канкурэнцыя» — гэта гучыць сучасна і смела. Ці не паспрабаваць у перабудовачна-гасразліковых умовах арганізаваць і нам, таксама ў агульных інтарэсах, свой самаакупны «ЛіМканцэрт»? Накіроўваць на гастролі членаў рэдкалегіі, якія маюць дачыненне да музыкі, ды спевакоў, пра якіх пішам, ды паэтаў-гумарыстаў, якія ў нас друкуюцца...

А калі без жарцікаў, дык паслухаем меркаванні Г. Рыжковай:

**— Я падумала: няўжо ў Мінгарвыканкоме няма іншых спраў, як займацца мастацтвам, яго прапагандай? За ўсё сваё працоўнае жыццё не ўспомню і выпадку, каб менавіта гарадскія ўпраўленні культуры клапаціліся пра арганізацыю гастроляў артыстаў філармоніі. А я аб'ездзіла амаль увесь Саюз. І арганізацыяй канцэртаў паўсюль і дасюль няблага займаліся работнікі філармоніі. Дык што гэта раптам — гарвыканком? Час змяніўся?**

**Змяніўся. Ды, на жаль, на хвалі перабудовы, пад шум агульных размоў усплыло нямала непрыемнага. Я заўважаю, як тыя кепскія артысты і арганізатары канцэртнай дзейнасці, што і пры Брэжневе, і мо нават раней, не дбалі пра тое, каб выхоўваць нашага чалавека з дапамогай мастацтва, а марылі пра рубель, зараз адкрыта закруціліся вакол гэтага рубля. І выйшлі на свет такія дзялкі, што толькі вакол рубля і кружацца.**

**Я не ведаю Часлава Муліцу, ніколі пра яго не чула і не хачу знячэўку пакрыўдзіць чалавека. Але ж вельмі насцярожвае мяне ў ягонай гутарцы з журналістам вось гэта: «Вы гаворыце канкурэнцыя, але ці не акажацца «вага» гарвыканкома рашаючым фактарам у такім саперніцтве? — А які гарвыканкому ў гэтым інтарэс? — Напрыклад, фінансавы... — Згодна з часовым палажэннем упраўленне культуры атрымлівае адзін працэнт ад збораў на канцэртах у горадзе. Магчыма, для «Мінскканцэрта» адлічэнні ўзрастуць. Але даходы ў дадзеным выпадку не галоўнае...» Уявіце сабе адзін працэнт ад збору на стадыённым канцэрце, ад 80 тысяч. Гэта — гарвыканкому, а яшчэ *больш* — «Мінскканцэрту». Уявіце сабе, колькі чыноўнікаў, дзякуючы гэтым, не імі заробленым, сродкам, змогуць спачываць у мяккіх крэслах! А філарманічныя адміністратары, сярод якіх нямала цудоўных, улюбёных у мастацтва і адданых справе, будуць тым часам атрымліваць свае капейкі ды кантралявацца менеджэрамі з гарвыканкома! Ці ж справядліва гэта?**

**Ды і чаму кіраўнікі гарадскога ўпраўлення культуры, перш чым штосьці вырашаць, не прыйшлі да нас у філармонію, не пагаварылі з народам, не параіліся?**

**У нас, работнікаў мастацтва і літаратуры, прызначэнне агульнае: звяртацца да чалавека, выхоўваць душы нашай моладзі, а гэта вельмі адказна. Нельга дапусціць, каб да гэтай справы далучаліся дзялкі — канкурыраваць з імі ў інтарэсах рубля філармонія не будзе, бо яна працуе ў інтарэсах мастацтва, а мастацтва існуе ў інтарэсах чалавека.**

Зноў перачытваю тую жнівеньскую публікацыю, зноў згадваю размову з Г. Рыжковай. І ў мяне, чалавека быццам староннягa, не звязанага з унутранымі справамі так званых тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў, узнікае недавер да перспектывы стварэння новай бюракратычнай структуры — «Мінскканцэрта».

Я думаю пра тое, што яшчэ доўга, відаць, не будзе пастаўлена кропка ў размовах пра перабудову і ўпарадкаванне канцэртнага жыцця, бо ўсе зацікаўленыя асобы, інстанцыі глядзяць на яго праблемы пакуль што з аднаго, кожны са свайго, боку. І чамусьці не спрабуюць наладзіць дыялог — хоць бы ў друку.

Дарэчы, «ЛіМ» ужо не раз і не два запрашаў выступіць на сваіх старонках кіраўнікоў філармоніі, прадстаўнікоў Міністэрства культуры рэспублікі, запрашэнні прымаліся, але... Але на справе ў рэдакцыю звяртаюцца па ўласнай ініцыятыве зусім іншыя людзі, якім сапраўды набалела, якія гатовы і падыскусіраваць, і памеркаваць разам.

Зараз проста неабходны дыялог, які дапаможа знайсці аптымальную для нашай рэспублікі (а не толькі для яе сталіцы) і абгрунтаваную мадэль канцэртнага жыцця. І калі нашым кампетэнтным чытачам ёсць з чым уключыцца ў такі дыялог, яны знойдуць дарогу ў рэдакцыю.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

---

гельскія матывы сюжэта, біблейскія імёны Мадалены, Юды, Хрыста. Спектакль засяроджаны на адвечным, агульначалавечым і менавіта праз гэта выйграе ў сучаснасці і нават сіюмінутнасці!

Я глыбока перакананa ў тым, што наспеў час філасофскага тэатра. Не адказаўшы на карэнныя пытанні быцця, грамадства не здолее рушыць далей. Трэба зразумець, нарэшце, чаму з вялікімі словамі на сцягах народ дазволіў знішчыць інтэлігенцыю — сваю самасвядомасць і сялянства — свайго карміцеля? Адмовіўшыся ад боскай ідэі, краіна трыццаць гадоў малілася на тырана (паводле моднай версіі, параноіка). І нарэшце, праз семдзесят гадоў, азірнуўшыся наўкола, мы ўбачылі разрабаваную зямлю, руіны бажніц, бязвер'е, эканамічны крызіс... Хто мы? Дзе мы? У чым чэрпаць сілы, дзе шукаць суцяшэння? Як адказваць на пытанні дзяцей? Стваральнікі спектакля «Роспач» прапаноўваюць пачаць з нашай памяці, з узнаўлення яе гістарызму. Час усвядоміць сябе дзецьмі вялікага народа з тысячагадовым лёсам, а не толькі дзецьмі вялікай рэвалюцыі. Трэба зразумець, у што верылі нашы продкі, хоць бы дзеля таго, каб ведаць, ад чаго мы адмаўляемся.

У гаворцы пра гэты спектакль можна, нарэшце, з поўным правам ужыць тэрмін «нацыянальны». Не ў сэнсе беларускамоўнасці і не ў сэнсе нацыянальнай прыналежнасці яго стваральнікаў (тэатр-студыя «Дзе-Я» працуе на дзвюх мовах, ставячы рускую літаратуру на рускай, а беларускую — на беларускай). Прыналежнасць да нацыянальнай культуры вызначаецца для мяне стылем мыслення, спробай усвядоміць сучаснасць, абапіраючыся на гістарычны і культурны вопыт свайго народа. Характэрны вобразны лад, нават этнічны склад персанажаў: беларусаў, іудзеяў, рымскіх місіянераў... Беларусь — скрыжаванні, расцяробы, ростані... народы, рэлігіі, светапогляды...

Можна спрачацца аб мастацкай каштоўнасці спектакля, але тое, што ён мае непасрэднае дачыненне менавіта да беларускай нацыянальнай самасвядомасці, для мяне бясспрэчна. Ён наводзіць і на некаторыя думкі з нагоды прыгаданай праблемы, а іменна: пытанне нацыянальнага тэатра ў нас у рэспубліцы нярэдка зводзіцца да колькасці беларускамоўных труп. Іх колькасць, наколькі мне вядома, у бліжэйшыя гады плануецца павялічыць, але гэтая мера, па сутнасці, той самы шлях экстэнсіўнага развіцця культуры, які скампраметаваў сябе ў папярэднія гады. Гэта шлях Тарэлкіна, які любіў, як вядома, абганяць прагрэс. Праблема, мне здаецца, ляжыць па-за сферай упраўленчых рашэнняў, і яна будзе вырашацца толькі па меры таго, як адновіцца і пачне сцвярджацца нацыянальная самасвядомасць беларусаў. Развіццё нацыянальнага тэатра магчыма толькі ў рэчышчы агульнакультурнага працэса, бо ён сінтэтычны па сваёй прыродзе і напрасткі залежыць ад поспехаў выяўленчага мастацтва, музыкі, архітэктуры, якія ўваходзяць у яго структуру як кампаненты.

Спектакль «Роспач» цікавы не толькі зместам, узровень якога шмат у чым прадвызначаны самім зваротам да прозы Караткевіча, але і надзвычай цікавай з прафесійнага пункту гледжання эксперыментальнай работай, праробленай сцэнарыстам і рэжысёрамі. У пастаноўцы апрабаваны такія спосабы арганізацыі сцэнічнага дзеяння, якія моцна адрозніваюцца ад агульнапрынятых — адмаўленне цвёрдай сюжэтнай канструкцыі, дзякуючы чаму спектакль нечым нагадвае традыцыі джэм-сейшн, калі вечарамі адны і тыя ж джазмены імправізуюць на адны і тыя ж тэмы з розным вынікам і, натуральна, — з розным поспехам.

На працягу дзвюх гадзін на сцэне тэатра «Дзе-Я» імправізуюць на тэмы: грань паміж жыццём і смерцю, узаемныя ператварэнні жывога і нежывога, дабро, зло, каханне, любоў і *нянавісць, адрозненне рэлігіі* як вучэння ад царквы як сацыяльнага інстытута. «Інструменты» — вобразы Хрыста, Юды, Мадалены, Ката і «шматлікіх» проста людзей», якія падобныя і не падобныя адзін да аднаго. Спектакль ідзе вельмі няроўна, трупа мала падрыхтавана да такога сцэнічнага існавання, дзе нельга абаперціся на сюжэтную лінію, на бытавыя дэталі, на жыццёвую логіку. Рэжысёры В. Баркоўскі і М. Трухан паспрабавалі даследаваць у гэтай пастаноўцы выключна тэатральныя сродкі ўздзеяння на гледача, пазбягаючы жыццепадабенства. Сцэнічная пляцоўка — адзінае месца, дзе можа ўзнікнуць такая мадэль падзей, характараў, узаемаадносін. Спосаб яе існавання — толькі гульневая стыхія, мова — толькі мастацкі вобраз, без цытат з жыццёвых рэалій. Хоць гэта больш датычыць да задумы спектакля, як да ягонага ўвасаблення. Вытрымка і густ неаднойчы здраджвалі рэжысёрам. Але цікава, што ўсе няўдалыя, на мой погляд, моманты спектакля звязаны з жаданнем пастаноўшчыкаў даць простыя тлумачэнні складаным працэсам. Гэта прыводзіла да побытавай логікі і побытавага дзеяння, так, напрыклад, узніклі эратычныя матывы ў адносінах Братчыка і Смерці (!?). Лунаючы дух, даруйце, бразнуўся ў лужыну. Між іншым, пралікі гэтыя больш як зразумелыя і падаюцца амаль непазбежнымі. Мы выхаваны на тэатры імітацыі, наш прафесійны вопыт аднастайны і зжываць падобныя стэрэатыпы вельмі цяжка. Але «Роспач» — крок да іншага тэатра і сама скіраванасць руху здаецца мне больш важнаю за вынік, які пакуль што досыць сціплы. У тэатры Трухана — Баркоўскага важнае слова, але не менш выразным могуць зрабіцца шум, святло, пластыка, сцэнаграфічная дэталь.

М. Трухан і В. Баркоўскі зрабілі намаганне пашырыць звыклы арсенал прыёмаў драмы, увёўшы ў дзеянне лялек. Лялькі тут — не функцыянальныя персанажы лялечнага тэатра. Яны не метафарычныя, можна нават сказаць, што іх аблічча малавыразнае — гэта звычайныя самаробкі з матузкоў і анучаў, якімі гулялі дзеці да росквіту лялечнай індустрыі. Лялькі «прадаўжаюць» акцёра, матэрыялізуючы мары герояў, іх страты, іх дзіцячыя ўспаміны — бацькі, мацяркі, бабуліны песні, вёска над ціхай рэчкай (у Ката, што заплакаў — гэта вяроўка, якую нехта скраў). Сцэна з лялькамі — адна з самых кранальных і эмацыянальных у спектаклі. Услед за ёй страшным кантрастам ідзе эпізод гандлю з Лотрам, дзе цана кожнай лялцымары аказваецца некалькі медзякоў...



«Роспач». Сцэна са спектакля.

Фота Т. ХАМІЦЭВІЧ.

Імправізацыйнасць акцёрскага існавання нараджае высокі ўзровень эмацыянальных выдаткаў і асаблівую энергетыку спектакля, ці, як зараз прынята гаварыць, яго калектыўнае біяполе. Гэта цяжкі шлях... Стваральнікі спектакля рухаюцца навобмацак, інтуітыўна (методыкі ёсць, але чамусьці склалася так, што нам сусветная мастацтвазнаўчая думка амаль недаступная, інфармацыйныя каналы працуюць дрэнна). Але гэта «дарога, што вядзе да храма». Сцэнічная дзея скіравана на ўзнікненне такога біяэнергетычнага поля ў глядзельнай зале, калі робіцца магчымым узаемнае рэпрадуцыраванне эмоцый і вобразаў паміж публікай і акцёрамі — ці ж гэта не ёсць той тэатр, пра які шмат хто марыў-летуценіў і да якога няшмат каму ўдавалася наблізіцца?

Драматызм становішча айчыннага тэатра заключаецца ў доўгай і трывалай адсутнасці летуценняў, што былі «супрацьпаказаны» мятодзе сацрэалізму і сістэме тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў, а таксама ў тым, што тэатр доўгія гады маршыраваў пад сцягамі Станіслаўскага, усё больш і больш ад Станіслаўскага аддаляючыся... Абурана адварочваўся ад пошукаў еўрапейскага тэатральнага авангарда, не вымагаючыся спасцігнуць іх сутнасці... У выніку складання гэтых і многіх іншых прычын мы маем тое, што маем: вялікія традыцыі, дзесятак яркіх імёнаў і паўсюдны «сярэдні» ўзровень, які не паддаецца ніякаму апісанню. Калі перакуць мячы на аралы, відаць, яшчэ можна, дык вось на што перашыць сцягі? Ці мае сэнс — усё спачатку?

**Галіна АЛІСЕЙЧЫК.**

## З паэтычнай пошты

### Уладзімір МАЗГО



●

Прачнуцца —
І здзівіцца дню,
І сонейку здзівіцца,
Нібы вось так
Улершыню
Нанова нарадзіцца,

Душой уласнаю адчуць
Сваю зямлю,
Край мілы,
І не лапаткі разгарнуць,
А складзеныя
Крылы...

●

Тут ява
З казкаю мяжуе,
А згадка —
Сэрца апячэ.
На Нёман велічны
Гляджу я,
А ён цячэ,
Цячэ,
Цячэ...

Маўкліва
З вечнасцю гаворыць
Між гонкіх сосен
Трапяткіх.
Услед за ім
Бягуць да мора,
Глыбінь шукаючы,
Радкі.

А дзень блакітны,
Дзень пагожы
Бярэ,
Чаруючы,
Ў палон...
Дзе гэта:
Ў сэрцы
Ці ў Каложы
Прачнуўся звон?..

●

Мой сакавік
Павёў адлік
Гадам пражытым,
Калі нябёсы пачалі
Гусцець блакітам.

Штодня
Званчэлі галасы
Вясны-спявачкі.
І прачыналіся
Лясы
Ад зімняй спячкі.

Скакала рэха
Між галін —
Ажно да Горны.
І абуджаліся
Палі
Пад небам зорным.

Адчуў
Бунтоўную вясну
Крылатай мары
І ў нябёсы
Баразну
Праклаў Гагарын,
Каб жыта сеялі
Як след,
А потым —
Жалі.
Каб ні сусед нам,
Ні сусвет —
Не пагражалі...

●

Жыццё
Губляе сэнс,
Калі жывеш
Без мэты.
А час,
Як экстрасенс,
Намацвае сакрэты.

Як мы раней
Жылі?..
Маліліся
На зоры.
І толькі
На Зямлі
Адчулі
Цэнтр апоры.
Як мы жывём
Цяпер —
На скрыжаванні
Веку?
Ці сябар ты,
Ці звер
Другому чалавеку?..

●

Хай верш,
Нібы вясною
Трава пасля дажджу,
Асвеціць навізною
Зямлю маю, душу.

Дыхне паветрам свежым,
Разгон свой беручы
Ад соснаў Белавежы
Да лепельскіх лагчын.

Уздымецца на дыбкі
За сонейкам услед.
І,
як Сымон на скрыпцы,
Зайграе на ўвесь свет.

Як радасцю скразною
Праніжа ўсіх, —
Скажу:
Мой верш,
Нібы вясною
Трава ласля дажджу...

# МІЖ БЫЛЫМ І НАСТУПНЫМ

(Пачатак на стар. 5).

І — нібыта нікога не хвалюе, што ў Беларусі яны належным чынам не ўвекавечаны. І — ніхто не абураецца на старонках усесаюзнага друку, ва ўсесаюзным маштабе... А дзе музей вялікага дзеяча нацыянальнай культуры, заснавальніка беларускага тэатра, выдатнага паэта і першага прафесіянальнага драматурга — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча? Дзе помнік вялікаму пісьменніку і вялікаму патрыёту зямлі беларускай Максіму Гарэцкаму?.. А Браніславу Тарашкевічу? А Уладзіславу Галубку? А Язэпу Драздовічу? А Рыгору Шырму? А Кузьме Чорнаму... Колькі іх, слаўных і слынных людзей нашай культуры, памяць якіх на Бацькаўшчыне амаль ніяк не ўвекавечана!..

Вось на якія імёны, калі гаварыць пра музеі ды помнікі, павінны мы, беларусы, у першую чаргу скіраваць сваю ўвагу. Бо інакай — чым засведчым, што наша нацыянальная мастацкая культура вялікая і што мы яе шануем?

□

**У гістарычным жыцці-быцці** беларусаў колькі стагоддзяў назад мелі месца працэсы, якія інакай як нацыянальным няшчасцем і як боскім праклёцем не назавеш. Гаворка — пра масавае апалячванне буйной, а затым і дробнай беларускай шляхты, што мела для Беларусі, для лёсу нацыі, для нашай духоўнай культуры надзвычай цяжкія наследкі. Прыняўшы каталіцызм і польскую культуру, польскую мову і школу, значныя сілы тутэйшай адукаванай грамадскасці, мясцовай інтэлігенцыі к пачатку XIX стагоддзя ўжо амаль зусім страцілі сваю нацыянальную самасвядомасць. І нават тыя з іх, што яшчэ звярталіся ў сваёй літаратурнай творчасці да беларускай мовы, нацыянальна свядомымі патрыётамі Беларусі не былі. (Дарэчы, факт для роздуму: у балгарскай літаратуры XIX ст. ёсць выдатныя паэты, якія, будучы выхаванцамі візантыйскай культуры роднай мовы не ведалі і пісалі на нова-грэчаскай, аднак заставаліся гарачымі патрыётамі Балгарыі). Нягледзячы на далучэнне Беларусі да Расіі, польскія магнаты і клерыкалы не сумняваліся, што беларускія землі належаць ім навек, што канчатковае апалячванне беларускага народа — пытанне часу, і нават рэзка ўзмацнілі свае намаганні ў гэтым кірунку. Рускія ж афіцыйныя колы і на падзеі 1830 года (лістападаўскае паўстанне), і на падзеі 1863 года глядзелі як на «чыста польскую інтрыгу». Тысячы беларусаў-католікаў, удзельнікаў паўстання, якім кіраваў Каліноўскі, былі высланы ў Сібір як палякі; так іх і ўспрынялі ў Сібіры, і называлі толькі палякамі, і яны не пратэставалі, а наадварот, забыўшы, што чыталі «Мужыцкую праўду» Каліноўскага на беларускай мове, пацвярджалі; і зразумела — чаму: інакай іх «грэх» у вачах улады і сібірскага насельніцтва быў бы нашмат большы: беларусы пайшлі супроць рускага цара... Ну, а як палякі — гэта ўжо справа іншая, гэта чужыя, ваявалі вунь колькі з Масковіяй...

Гэта памылковае прызнанне беларускіх шляхціцаў за палякаў было настолькі безагаворачнае, што не падлегла сумненню і ва ўсе наступныя дзесяцігоддзі, ды, па сутнасці, і аж да нашага часу. І ўсе пакаленні нашчадкаў тых ссыльных, што засталіся жыць у Сібіры, лічыліся і дагэтуль лічацца палякамі. Вядома ж, і тыя з іх, што нямала прыдбалі для рускай навукі, рускай славы...

Такія «вывіхі» гісторыі, як правіла, не выпраўляюцца. Таму і не застаецца для нас нічога, апрача як сказаць: што зробіш! Бог на нашым баку пакуль што яшчэ ніколі не быў. Пачакаем, пацерпім...

□

**У палітычнай** і культурнай гісторыі нашага народа складаная і нялёгкая тэма — польскі шавінізм на Беларусі. Па зразумелых прычынах мы асцерагаемся гаварыць праўду аб тым, што ён меў месца на нашай зямлі не толькі ў далёкім мінулым, але і ў досыць блізкім. Вялікапольскія шавіністы былі рашучымі праціўнікамі культурнага адраджэння беларускай нацыі, вяртання беларускай мове статуса мовы дзяржаўнай (які яна мела ў Вялікім Княстве ў XIV—XVII стст.). Пра гэта трэба помніць, інакай праўдзівага асвятлення гістарычнага лёсу Беларусі не атрымаецца. Трэба ведаць, якія сацыяльныя і палітычныя сілы супрацьдзейнічалі абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, станаўленню яго духоўнасці, уздыму яго культуры. Не толькі царызм, а пасля сталінізм і створаная сталінскай гвардыяй адміністрацыйна-бюракратычная сістэма. Успомнім, як душылі беларускі нацыянальна-вызваленчы рух пілсудчыкі, як закрывалі па ўсёй Заходняй Беларусі беларускія школы, выдавецтвы, газеты, часопісы, беларускія нацыянальныя таварыствы і інш. А калі справы павярнуліся так, што беларускія землі былі ўз'яднаны ў адной дзяржаве і на былых «крэсах усходніх» перастала быць дзяржаўнай польская мова — мала хто з былых польскіх культтрэгераў далучыўся шчыра да будаўніцтва беларускай культуры, да стварэння духоўных каштоўнасцей у беларускай мове. Амаль усе яны зрабіліся заядлымі прыхільнікамі і праваднікамі русіфікацыі. Абы не прынізіцца да «хамскай» «тутэйшай» мовы, не далучыцца да культуры, якой калісьці пагарджалі іх продкі!

Паўтараю: пытанне гэта — і складанае, і балючае, аднак жа заплюшчваць вочы на праўду, на рэальнасць, на факты — нельга.

□

***Што наша*** *гістарычная навука* паступова прыйшла да вялікага заняпаду — сёння гэта ні для каго, як кажуць, не сакрэт. Але далёка не ўсе ведаюць, што на самай справе становішча ў гэтай навуцы нашмат горшае, чым мы сабе ўяўляем.

Да 70-годдзя Кастрычніка выйшла ў свет невялікая кніга В. Н. Міхнюка і П. Ц. Петрыкава «Историческая наука Белорусской ССР: 80-е годы». Ну, калі 80-я, падумаў я, значыць — сённяшні дзень гэтай навукі. Самы што ні ёсць сённяшні! Апошнія шэсць-сем гадоў, з якіх два прыпадаюць ужо на эру перабудовы.

На 104 старонцы гэтага каштоўнага даведніка пачынаецца падраздзел: «Доктарскія і кандыдацкія дысертацыі», у ім звышсцісла праанаціраваны дысертацыі па «розных аспектах гісторыі Беларусі», абароненыя «за перыяд паміж XXVI і XXVII з'ездамі КПСС», г. зн. з 1981 па 1986 год. Карціна адкрываецца такая: доктарскіх дысертацый абаронена шаснаццаць, кандыдацкіх — сто дваццаць адна. Усяго — сто трыццаць сем. На прыкладзе гэтай дысертацыйна-ўрадлівай пяцігодкі вельмі добра, па-мойму, відны і тэндэнцыя развіцця беларускай гістарычнай навукі і прычыны таго, чаму яна апынулася па сутнасці ў тупіку, чаму сёння да яе так шмат прэтэнзій.

З шаснаццаці доктарскіх на ўсю гісторыю дакастрычніцкай Беларусі — г. зн. на дзесяць стагоддзяў — прыпадае толькі тры дысертацыі; а на савецкі перыяд — г. зн. на некалькі дзесяцігоддзяў — трынаццаць дысертацый. Розніца — уражвае, яна гаворыць пра многае, у прыватнасці — пра меруісціннасці навуковага прызвання, якое пачынаецца з апантанай цікавасці да «аповесцяў далёкіх часоў» і з прыроднага чуцця да сучаснага ў мінулым, у калісь перажытым продкамі. Але галоўная бяда не ў гэтым, — зрэшты, і жыццё-быццё народа не вельмі ў часе аддаленае можа быць прадметам навуковага даследавання. *Галоўная бяда... хацеў бы падабраць больш далікатнае слова,* ды не падбіраецца... у тым спекулятыўна-палітычным падыходзе, які ёсць ні што іншае, як прафанацыя гістарычнай навукі. Вось — паводле аўтараў кніжкі — тэмы гэтых доктарскіх фаліянтаў. «В научных трудах... раскрыты аспекты деятельности КП(б)Б по вовлечению трудящихся масс в управление государством, их военно-патриотическому воспитанию в период построения и упрочения социализма». (Дзве дысертацыі). Ну, як працоўныя масы кіравалі ў нас дзяржавай — цяпер мы ведаем добра. І колькі аб'ектыўнай навуковай ісціны ў працах пра гэта «вовлечение» ўявіць не цяжка. «Внимание исследователей привлекли проблемы истории крестьянства Советской Белоруссии, аграрной политики партии в послевоенные годы и в условиях совершенствования социализма». (Тры дысертацыі). Аграрная палітыка пасля вайны, значыць... О, калі пра яе ўсю праўду сказаць!.. А «ва ўмовах удасканалення сацыялізму» — гэта, канешне ж, пры Л. І. Брэжневе? Бо пры ім у нас быў удасканалены, развіты... Аж не верыцца, што гэта на поўным сур'ёзе, што гэта фармуліроўкі 1987 года, калі тэма «развітога і ўдасканаленага» ўжо трывала замацавалася на старонках «Вожыка». Але чытаем далей: «Защищены докторские диссертации *по таким темам, как* деятельность партийной организации республики по укреплению социалистической дисциплины труда на промышленных предприятиях» (адна дысертацыя), «развитие физкультуры и спорта в республике в условиях совершенствования социализма» (адна дысертацыя), «деятельность милиции БССР по охране общественного порядка и борьбе с преступностью в период построения основ и дальнейшего упрочения социалистического строя» (дзве дысертацыі). Вось такія, значыць, доктарскія дысертацыі па гісторыі Беларусі... Такая, значыцца, у нас гістарычная навука... Спрабую ўявіць: М. І. Кастамараў: «Дзейнасць па ўмацаванню дысцыпліны працы...», В. В. Ключэўскі: «Развіццё фізкультуры і спорту...», С. М. Салаўёў «Дзейнасць міліцыі па ахове грамадскага парадку...» Не ўяўляецца! Хіба што як жарт? Бо калі сур'ёзна — дык... звычайныя тэмы звычайных рабочых дакладаў на пасяджэнні гарсавета ці, можа, нават і Саўміна... Але — прычым жа тут навука гісторыя?.. Ну, гэта ўжо як хто разумее. «Отметим, — чытаеш далей, — что эти труды в полном соответствии с требованиями ВАК СССР являются самостоятельными *исследованиями*, в которых осуществлено **теоретическое обобщение и решение крупных проблем исторической науки».** (Падкрэслена мною. — **Н. Г.** ). Так што — ніякіх жартаў.

Пяройдзем, аднак жа, да кандыдацкіх дысертацый. Іх, нагадваю, у суме — ажно сто дваццаць адна. Уяўляеце, які бурны росквіт беларускай гістарычнай навукі? Толькі за адну *пяцігодку* і толькі па гісторыі Беларусі — сто дваццаць адна кандыдацкая дысертацыя! З іх — дакастрычніцкаму перыяду Беларусі прысвечаны семнаццаць дысертацый, гісторыі Беларусі ад Кастрычніка да 1960 года — трыццаць дзве дысертацыі, астатнія семдзесят дзве прысвечаны перыяду БССР з 1961-га па 1980 год. Гэта значыць, на дваццаць гадоў сучаснасці (не пішу: гісторыі, бо — якая ж гэта гісторыя?!) — семдзесят дзве дысертацыі!.. Якія тэмы гэтых навуковых даследаванняў? У кніжцы яны, на жаль, не пералічаны. Адно сказана, што іх праблематыка «сформулирована чаще всего по отраслевому принципу». Што значыць «галіновы прынцып» у гістарычнай навуцы, мы ўжо бачылі на прыкладзе доктарскіх дысертацый.

Такія пісаліся даследаванні, такія рыхтаваліся кадры вучоных. На вачах усяго грамадства, на ўзроўні здзеку не толькі з навукі, але і з усякага здаровага сэнсу, ішла нечуваная прафанацыя навуковай дзейнасці.

Паглядзіш на статыстычныя лічбы — дык тытулаваных вучоных-гісторыкаў — хоць гаць гаці! А як падумаеш, што ж канкрэтнага прапанаваць чытачам па гісторыі Беларусі, дык... не надта і разгонішся. Хутчэй за ўсё прыгадаеш працы У. М. Ігнатоўскага, А. П. Сапунова, М. В. Доўнар-Запольскага... Але ж яны ўжо гадоў семдзесят, а то і больш, як не перавыдаваліся.

*Пошукі, знаходкі*

## РАДКІ, НАРОДЖАНЫЯ ЗМАГАННЕМ

**Працуючы ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта па выяўленні матэрыялаў для сваёй манаграфіі, зацікавіўся вершам, які быў змешчаны ў часопісе падпольнага гуртка вучнёўскай моладзі Віленскай беларускай гімназіі (№ 1, снежань, 1926 г.). Верш, пад якім стаіць подпіс вучня гэтай гімназіі Якуба Міско — камсамольца, а пазней вядомага дзеяча КПЗБ.**

**Сёння, калі мы адзначаем гістарычную гадавіну ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР, змест гэтага верша набывае сімвалічнае гучанне. Ён адлюстроўвае ўсю тую цяжкую і складаную рэчаіснасць, у якой знаходзіўся беларускі народ у гады панавання буржуазна-абшарніцкай Польшчы, паказвае рашучасць беларускай моладзі да барацьбы за вызваленне ад панскага прыгнёту.**

**Васіль МЯЛЕШКА.**

**Якуб МІСКО**

### *Наперад*

Наперад, да лепшае долі!
Наперад, да сонца, да зор!

Мы ў цемры не можам жыць болей,
Нам трэба святло і прастор!

Мы дзеці працоўнай сярмягі,
Гаротнікаў тых мы сыны,
Ланцуг на якіх і знявага,
З чыёй жывуць працы паны.

Не зможам спакойна на здзекі
Глядзець, што скрозь ўюцца, як ніць,
Нам панскай не трэба апекі,
Без здраднікаў можам мы жыць!

Пад гэтай апекаю панскай
Бацькі нашы гора цярпяць,
Дык нашым і ёсць абавязкам
Ісці іх хутчэй ратаваць.

Выходзьма ж хутчэй, арляняты,
З-за кратаў бацькоў вызваляць.
Падайма мы рукі брат брату
І крыкнем: «Даволі нам спаць!»

Дык дружна ж да лепшае долі!
Да лепшага шчасця, да зор!
Не можам мы ў цемры жыць болей,
Нам трэба святло і прастор!

# Невядомы аўтограф Эпімах-Шыпілы

Гэты ліст Браніслава Эпімах-Шыпілы, колішняга апекуна і настаўніка Янкі Купалы, хроснага бацькі цэлай кагорты беларускіх культурных дзеячаў нашаніўскай пары мне дапамог адшукаць... Францішак Багушэвіч.

Рыхтуючы па дамове з выдавецтвам «Мастацкая літаратура» новы аднатомнік твораў Мацея Бурачка, прымеркаваны да 150-годдзя з дня нараджэння паэта (гэты юбілей 1990 года пазначаны ў календары ЮНЕСКА), я паставіў за мэту сабраць увесь ягоны вядомы эпісталярый. Кола асоб, з якімі Багушэвіч меў сталую карэспандэнцыю, прадстаўлена ў папярэднім выданні «Твораў» (1967 г.): гэта сямейства Карловічаў (Антаніна, Ірэна, Ян), пісьменніца Эліза Ажэшка і калега-адвакат Адам Карповіч. У новым аднатомніку пералік адрасатаў узрос усяго на адно імя — Баляслаў Русецкі. Мастак (жывапісец і графік), творчасць якога звязана з мастацкім жыццём Беларусі і Літвы, віленскі грамадска-культурны дзеяч канца XIX стагоддзя. У зборніку гісторыка-літаратурных матэрыялаў «Пачынальнікі», складзеным Генадзем Кісялёвым, адзначалася: «Сярод папер Русецкага захавалася візітная картка Багушэвіча з надпісам, які сведчыць пра блізкія адносіны гэтых людзей»; далей прыводзілася дакладная архіўная сігнатура.

Паколькі ў свой час Генадзь Васільевіч не занатаваў змест візіткі, на знаёмства з дакументам я падаўся ў Вільнюс. Тэкст аказаўся кароценькім, як у тэлеграме: «Двойчы біў у званы — беспаспяхова». Датаваць яго можна 1897—1899 гг., калі адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння вялікага сына беларускай зямлі, польскага паэта Адама Міцкевіча, і Русецкі быў выбраны старшынёй віленскага юбілейнага камітэта. Сябрам камітэта ў ліку іншых дванаццаці асоб быў, як вядома, і Францішак Багушэвіч.

Я звярнуў увагу, што пагінацыя старонак у архіўнай справе змянілася: замест л. 19, як пададзена ў «Пачынальніках», сінім алоўкам выведзена лічба 26. Нумарацыя ўзрасла за кошт новых паступленняў. У ліку апошніх быў і вось гэты ліст Браніслава Эпімах-Шыпілы (падаецца ў перакладзе з польскай мовы):

С[анк]т-Пецярбург
9/22 верасня 1900-га г.

Шаноўны пане!

20 жніўня я вярнуўся з Віцебскай губерні ў Пецярбург і ў сувязі з навалам працы ва універсітэце і ўступных экзаменаў у школе імя св. Кацярыны толькі сёння сабраўся адаслаць шаноўнаму пану дарučаную мне ойчам Рафалам Каліноўскім кнігу: «Кляштары босых кармелітанак у Польшчы, на Літве і Русі». Пра атрыманне гэтай кніжкі шаноўны пан будзе ласкавы паведаміць пісьмова ойчу Рафалу (Кляштар кармелітаў босых у Вадавіцах. Аўстрыя-Галіцыя). Найпакорней перапрашаючы шаноўнага пана за гэтую затрымку, маю гонар заставацца з глыбокаю павагаю да Вас найніжэйшы слуга

**Браніслаў Эпімах-Шыпіла**

Малая Майстэрская, д. № 9/22, кв. № 11.

Што Эпімах-Шыпіла ведаў віленскага мастака Баляслава Русецкага, не з'явілася нечаканкаю; нёспадзяванкай для мяне паўставаў факт знаёмства святара Рафала Каліноўскага з пецярбургскім прафесарам, ураджэнцам Полаччыны. З мэтаю высветліць, дзе маглі пазнаёміцца гэтыя выдатныя прадстаўнікі польскай і беларускай культур, звярнуўся да біяграфіі манаха-кармеліта.

Юзаф Каліноўскі, у законе (манастве) ойча Рафал, нарадзіўся ў Вільні 1 верасня 1835 года ў сям'і Андрэя Каліноўскага і Юзэфы з Палоньскіх Каліноўскай. Вучыўся ў Віленскім шляхецкім інстытуце, аграномічнай школе ў Горы-Горках (усяго два гады), у Акадэміі вайсковых інжынераў у Пецярбурзе. Удзельнік крымскай кампаніі 1855 года, абаронца Кранштата і Пецярбурга, перад паўстаннем 1863 года накіраваны ў крэпасць у Брэст-Літоўску. За ўдзел у паўстанні сумнавядомы Мураўёў-вешальнік прыгаварыў Каліноўскага да расстрэлу, аднак з увагі на просьбу рускіх афіцэраў смяротную страту змянілі пажыццёвай сібірскай высылкай, якую адбываў у мястэчку Усоля на рацэ Ангары каля Іркуцка. Там уступіў у закон оо. босых Кармелітаў. Праз дзесяць гадоў, па амністыі 1874 г. выехаў у Кракаў...

Паступова заглыбляючыся ў жыццяпіс а. Рафала Каліноўскага, натрапіў, як мне падалося, на тыя агульныя інтарэсы, што лучылі яго з Эпімах-Шыпілам: а. Рафал слыў не толькі як выдатны інжынер і матэматык, але і як лінгвіст, валодаў амаль усімі еўрапейскімі мовамі. Думаецца, захапленне апошнімі (Эпімах-Шыпіла ведаў больш як 20 моў, у тым ліку грэцкую і лаціну, якую выкладаў у Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі) і пазнаёміла іх.

І тут для будучых даследчыкаў жыццёвага і творчага шляху Браніслава Эпімах-Шыпілы раскрываецца плённая перспектыва: з мэтай пошуку новых матэрыялаў пра аднаго з заснавальнікаў беларускіх выдавецкіх суполак нашаніўскай эпохі варта было б прагледзець добраўпарадкаваны архіў а. Рафала Каліноўскага. Магчыма, імя Эпімах-Шыпілы прыгадваецца ва «Успамінах», якія пакінуў былы ўдзельнік паўстання 1863 года (выдадзены ў Любліне ў 1965 г.), ці ў двухтомніку ягоных пісем (Люблін, 1978, Т.1; Кракаў, 1984, Т.2).

На жаль, усе пералічаныя крыніцы, таксама як і адзіную прыжыццёвую кнігу а. Рафала Каліноўскага, згаданую ў лісце Эпімах-Шыпілы да Баляслава Русецкага «Klasztory Karmelitanek bosych w Polsce, na Litwie i Rusi» я не змог вывучыць па простай прычыне: у савецкіх бібліятэках іх няма. Таму сам дзіўлюся, чаму вясной мінулага года пад час 45-дзённай вандроўкі па архівах Варшавы, Вроцлава і Кракава, неаднаразова наведваючыся ў спецыяльныя каталіцкія кнігарні, набыў у іх усяго адну-адзіную кніжку: Blagoslawiony Rafal Kalinowski Swiętymi bodźcie (Кракаў, 1987). Звесткі з гэтага аднатомніка рэлігійных казанняў, забяспечанага грунтоўнай прадмовай з каментарыямі, я і выкарыстаў у публікацыі.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**




**З 9 ПА 15 КАСТРЫЧНІКА**

**9 кастрычніка. 20.25**

**Прэм'ера кароткаметражнага мастацкага фільма БТ «Сон».**
**Аўтар сцэнарыя А. Асташонак, рэжысёр У. Бокун, аператар-пастаноўшчык С. Фрыдлянд.**
**У ролях — заслужаныя артысты БССР А. Ткачонак і В. Філатаў, артыстка Т. Пузіноўская.**

**10 кастрычніка. 19.20**

**«ЛІРА»**
**Мастацка-публіцыстычная праграма.**

**11 кастрычніка. 21.40 — 1-я частка, 22.50 — 2-я частка.**

**«НАЧНОЕ РАНДЭВУ»**
**Гэта музычна-тэлевізійнае шоу праводзіцца па заказу маладзёжнага культурнага цэнтра «Лідэр» сумесна з творчай групай тэлешоу «Лідэр» Галоўнай рэдакцыі музычных праграм БТ.**

**Вядучыя — аўтары праграмы Алена Спірыдовіч і Аляксандр Вавілаў.**

**13 кастрычніка. 23.00**

**«РАДАВОД»**
**Вяртанне ў Купалле.**

**14 кастрычніка. 12.35**

**ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ**
**Мастак Зоя Літвінава.**

**14 кастрычніка. 19.35**

**«ДЗВІНА»**
**Літаратурна-мастацкі часопіс Віцебскай студыі тэлебачання цалкам прысвечаны культурнаму жыццю Наваполацка.**

**У перадачы бяруць удзел пісьменніца І. Жарнасек, мастакі Р. і С. Цімохавы, майстар па пляценню з лазы М. Гільніч, паэтэса В. Аксак і аўтар-выканаўца самадзейных песень Л. Касьянава.**

**15 кастрычніка. 12.15**

**«СУЗОР'Е-89»**
**Перадача расказвае аб І Усесаюзным фестывалі гільдыі кінаакцёраў, які адбыўся сёлета ў г. Калініне.**

**15 кастрычніка. 15.15**

**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**
**У. Казбанаў, В. Аколава, «Галубок». Выконвае Н. Кавалёва.**

**15 кастрычніка. 16.45**

**Аўтарскі канцэрт народнага артыста СССР кампазітара Я. Глебава.**

**15 кастрычніка. 19.25**

**«Аднаўляючы забытыя імёны. Пецярбургскі дэбют».**
**У гісторыі, пра якую расказвае перадача, пераплецены імёны, што складуць славу расійскага тэатра пачатку XIX стагоддзя. Але галоўнай гераіняй будзе дачка беларускай сялянкі Марыя Азарэвічава — першая выканаўца ролі Лізы ў славутым «Горы ад розуму» на сцэне Імператарскага тэатра ў 1822 годзе.**
**Аўтар і вядучы — пісьменнік Уладзімір Мехаў.**

**15 кастрычніка. 22.45**

**СТУДЫЯ «РЭЯ»**
**Агні Міжземнага мора. Музычнае рэвю. Частка 1-я.**




**«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.**

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

АТ 00402 **П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**Індэкс 63856** **М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.